



№ 35 (52)
Верасень 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





Нашы віншаванні

*«Краязнаўчая газета» шчыра віншуе ўсіх бібліятэкараў краіны з іх прафесійным святам. Гэта свята не толькі тых, хто зберагае і прапагандуе кнігу, яно ў адпаведнай ступені з'яўляецца святам і для ўсіх нас – тых, хто кнігу чытае.*

*Жадаем, каб большала чытачоў у бібліятэках, каб там заўсёды былі патрэбныя нам кнігі, каб пастуова паляпшаліся ўмовы працы работнікаў бібліятэк.*

*Са святам вас, рупліўцы бібліятэчнай справы!*

## Шэрагі скарыназнаўцаў узраслі

***Рыгор Андрэявец вядомы на Гомельшчыне і – шырэй – у Беларусі, Расіі, Украіне як здольны і пладавіты журналіст. Ён заснаваў (1996) і рэдагуе часопіс «Палессе». Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Баяна, Усерасійскай прэміі прафесійнага прызнання «Лепшыя пёры Расіі». Выдаў кнігу «Беларусы ў Расіі».***

І вось Р. Андрэявец выступіў у новай і крыху нечаканай ролі даследчыка-скарыназнаўца. Сёлета ён выдаў у Гомелі невялікую кнігу «Жыццё Францыска Скарыны», разлічаную найперш на шырокага чытача. У ёй папулярна расказваецца пра жыццё і асветніцкую дзейнасць усходнеславянскага першадрукара.

У некаторых выпадках гомельскі аўтар дае падставы задумацца і прафесіянальным даследчыкам. Плённымі здаюцца яго выказванні пра «сінтэз дзвюх рэлігій, сінтэз дзвюх адукацый, закладзеных у дзяцінстве», якія «дзіўным чынам прараслі ў душы і розуме Францыска Скарыны і ўжо ў сталыя гады з'явіліся тым фундаментам, на якім грунтавалася яго купецкая і асветніцкая дзейнасць». Праўда, часам «купецтва» Скарыны здаецца перабольшаным, як і тое, што Богдан Онкаў, фінансуючы выданне Біблii, не быў мецэнатам, як гэта сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, а толькі «ўкладаў грошы ў новую справу, каб атрымаць прыбытак». Але такую матывацыю цяжка і абвергнуць. Зрэшты, часам гіпатэтычныя выказванні Р. Андрэяўца нечакана знаходзяць пацвярджэнне. Да прыкладу, сцвярджэнне, што Скарына наведаў Францыю і набыў там для брата Івана «ў вялікай колькасці ліёнскае сукно». Некаторыя беларускія даследчыкі аднясуцца да гэтага факта недаверліва. Між тым у самы апошні час ён стаў пацвярджацца французскімі крыніцамі.

Зрэшты, і сам аўтар не адмаўляе, што некаторыя яго думкі могуць аказацца спрэчнымі. У анатацыі да кнігі падкрэсліваецца: скупасць звестак пра жыццё Скарыны непазбежна вядзе да гіпатэтычнасці. І будучыня пакажа, якія вонкава парадаксальныя выказванні Р. Андрэяўца акажуцца абвергнутымі, а якія будуць прызнаны плённымі.

***Таццяна ГЕРНОВІЧ***

## Слуцакі ўпадабалі шашлыкі

Вось чаму апошнім часам у ААТ «Слуцкі мясакамбінат» вырашылі дапамагчы сваім кліентам паскорыць працэс іх прыгатавання. Асаблівым попытам карыстаюцца паўфабрыкаты хуткага прыгатавання ў марынадах, мяса для шашлыка і сам шашлык.

На прадпрыемстве ў апошні час шмат працуюць над паляпшэннем смаку, колеру і водару мясной прадукцыі «па-слуцку». Гэта карэйка, бекон, вяндліна, шчакавіна. Іх вэнджанне, дарэчы, праводзіцца з выкарыстаннем трэсак дрэў ліставых парод на найноўшым замежным абсталяванні, дзе сам дым старанна ачышчаецца і фільтруецца. Прычым прадукцыя выпрабляецца толькі з ахалоджанага мяса без фарбавальнікаў і кансервантаў.

Зараз ААТ «Слуцкі мясакамбінат» рэалізуе больш за 200 найменняў каўбасных вырабаў і паўфабрыкатаў.

## Стандарты, што добрых слоў варты

### У Нараўлянскім раёне расцэньваюць вяртанне сістэмы паслуг сельскім жыхарам як грунтоўную аснову адраджэння вёскі

### Вандроўка – не праблема

Украсці першапраходца па адпрацоўцы механізмаў забеспячэння нарматываў адзінага дзяржаўнага стандарту на Гомельшчыне Нараўлянскі раён апынуўся зусім не выпадкова. Нават павярхоўны аналіз дэмаграфічнай сітуацыі ў адным з найбольш пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы рэгіёнаў сведчыць аб тых маштабных сацыяльных зрушэннях, што адбыліся за няпоўныя два дзесяцігоддзі ў гэтым непаўторным па прыгажосці палескім куточку. З амаль 28 тысяч чалавек, што жылі тут да сумнапамятнага года, у раёне засталося нямногім больш за 12 тысяч. Толькі каля трэці з гэтай колькасці складаюць вяскоўцы, у пераважнай большасці пенсіянеры. Не сакрэт, што для многіх з гэтых людзей адроджаная даступнасць паслуг міжволі выклікае асацыяцыю вяртання стабільнасці парушанага Чарнобылем жыццёвага ўкладу. Мяркую, менавіта з такім адчуваннем ідуць сёння на аўтобусныя прыпынкі жыхары Смапегава, Красноўскай Буды, Габрылееўкі, Маскалёўкі, Брацкага. Для іх, як і для вяскоўцаў з паўторна заселенай вёскі Грыдні, якая, па прызнанні кіраўніка дзяржавы, пакінула адметны след у яго прэзідэнцкім і чалавечым лёсе, яшчэ з год таму дабірацца ў райцэнтр або здзейсніць больш далёкую вандроўку было вялікай праблемай. Праблема вырашылася: зараз чатыры дні на тыдні, уключаючы суботу і нядзелю, сюды ходзяць рэйсавыя мікрааўтобусы.

... Маё тэлефанаванне заспела жыхара вёскі Аляксандраўка Станіслава Сікорскага за хатнімі клопатамі. Настрой у суразмоўцы быў цудоўны. Ветэран вайны, былы наводчык супрацьтанкавай гарматы і яго жонка Галіна Пятроўна паспелі ўжо ацаніць вартасці тэлефона, які не так даўно з'явіўся ў іх вясковым доме. Станіслаў Станіслававіч шчыра падзяліўся: цяпер іх стасункі з дачкой Ганнай, што жыве з сям'ёй у Мінску, сынам Іванам, які кінуў жыццёвы якар у Кіеве, сталі рэгулярнымі. Як не быць у добрым настроі!

Тым больш што тэлефон Сікорскаму, а разам з ім яшчэ пецярым франтавікам, якія чакалі чаргі на тэлефанізацыю, устаноўлены бясплатна.

– Нічога дзіўнага, – заўважае старшыня райвыканкама Валерый Шляга, – гэту катэгорыю заслужаных людзей ніколі не абыходзім увагай, у перыяд укаранення ў раёне сістэмы дзяржаўнага сацыяльнага стандарту ўвага да ветэранаў была асаблівай.

**(Заканчэнне на стар. 2)**





# Абуджаная Сымонам Будным

Да Дня беларускага пісьменства ў Клецкім гісторыка-этнаграфічным музеі адкрылася выстава «Асветнікі Клеччыны», якая знаёміць наведвальнікаў з нашымі праслаўленымі людзьмі.

Пачынаецца выстава матэрыялам аб Сымоне Будным, які быў запрошаны Мікалаем Радзівілам Чорным на пасаду міністра кальвінскага збору ў Клецку. Тут Будны не толькі добрасумленна выконваў свае непасрэдныя абавязкі, але напружана займаўся асветніцкай дзейнасцю і літаратурай. У Клецку Сымон Будны рыхтаваў да выдання «Катэхізіс».

Прадстаўлены матэрыял аб знакамітай славянскай пісьменніцы XIX стагоддзя Еве Фялінскай, якая нарадзілася ў вёсцы Узнога Клецкага раёна. Вядомы «Энцыклапедычны слоўнік» праз паўвека пасля яе смерці назваў Еву Фялінскую адной з выдатнейшых жанчын Расіі XIX стагоддзя.

На выставе асэнсавана дзейнасць Марыі Багушэвіч, ураджэнкі вёскі Цапэрка Клецкага раёна. Марыя – праўнучка Тадэвуша Касцюшкі і пляменніца Францішка Багушэвіча – узначаліла партыю «Пралетарыят» і вяла асветніцкую дзейнасць.

Асобны раздзел на выставе адведзены прадстаўнікам роду Радзівілаў. Амаль 400 гадоў з больш чым васьмісотгадовай гісторыі Клецка горад належаў прадстаўнікам гэтага роду. Маючы вялізныя зямельныя ўладанні, Радзівілы дбалі не толькі пра свае ўласныя патрэбы і дабрабыт, але займаліся і мецэнацтвам, дабрачыннай асветніцкай дзейнасцю, выдзяляючы па гэта шмат сродкаў. Дзякуючы іхняму арганізатарскаму таленту Клецк стаў на тыя часы горадам, які адыграў вялікую ролю ў гісторыі краіны.

Шмат матэрыялу на выставе і аб сучасных таленавітых пісьменніках і паэтах Клеччыны: Анатоль Іверс – выпускнік Клецкай беларускай гімназіі, Уладзімір Дамашэвіч – адзін са старэйшых беларускіх празаікаў, Леанід Галубовіч – вядомы паэт, Аляксандр Жукоўскі – паэт, які сумесна з кампазітарам Эдуардам Зарыцкім стварыў цудоўныя песні: «Твае вочы-азеры», «Ты для мяне...», «Мой родны горад», Анатоль Курыльчык – паэт-песеннік, вершы якога паклалі на музыку самадзейны кампазітар Клеччыны Міхаіл Кашуба і Эдуард Зарыцкі, Віктар Худавец – творчы чалавек з багатым патэнцыялам, Святлана Стромская, якая піша не толькі вершы, але і цудоўную паэтычную, надзвычай прыгожую прозу.

Асаблівую ўвагу і цікавасць на выставе прыцягваюць рэчавыя экспанаты: грыфельная дошка часоў Сымона Буднага, старажытныя бяроста і пергамент, цікавыя рукапісныя кнігі 1817 года выдання і старадрукі.

*Марына ЛЕАНЕНЯ,*
*навуковы супрацоўнік*
*Клецкага гісторыка-этнаграфічнага музея*




Фота Міколы КОТАВА

# Стандарты, што добрых слоў варты

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Адчулі добрыя перамены не толькі ветэраны. Як паказчык – з увядзеннем у эксплуатацыю ў Нароўлі новай электроннай тэлефоннай станцыі на 2950 нумароў, прыходам сюды трох асноўных аператараў мабільнай сувязі, адкрыццём на базе райвузла сувязі пункта калектыўнага карыстання, а таксама з паляпшэннем якасці традыцыйных і пашырэннем аб'ёмаў нетрадыцыйных паслуг паштавікамі колькасць скарг на дрэнную работу сувязі значна паменшылася.

Вядома, ва ўмовах невялікіх аграрных раёнаў, да якіх адносіцца і Нараўлянскі, дзе людзі звычайна маюць невялікія заробкі, прадпрыемствам сферы паслуг працаваць няпроста. Нямала праблем накапілася і ў нараўлянскіх кааператараў і бытавікоў. Між тым рэалізацыя адпаведнай пастановы ўрада і рашэння Гомельскага аблвыканкама аб укараненні нарматываў дзяржаўнага мінімальнага стандарту ў абслугоўванні насельніцтва прымусіла работнікаў прылаўка і службы быту раёна перагледзець некаторыя ранейшыя пазіцыі. Знойдзены сродкі на рамонт і аднаўленне дзейнасці некаторых сельскіх комплексна-прыёмных пунктаў, сёння пяць з іх дапамагаюць вяскоўцам вырашаць разнастайныя бытавыя праблемы. Праведзена рэканструкцыя раённага Дома быту, рэстарана ў Нароўлі. Знойдзена ўрэшце выйсце і, як яшчэ нядаўна здавалася, з невырашальнага становішча з аказаннем паслуг насельніцтву раёна ў рамонце бытавой тэхнікі, абутку, гадзіннікаў, тэле- і радыёапаратуры. Вытворчыя магутнасці для аказання гэтых відаў паслуг тут практычна адсутнічалі.

## Не парадная шэсце, а карпатлівая праца

Старшыня Нараўлянскага райвыканкама Валерый Шляга і іншыя спецыялісты раёна, з якімі давялося гутарыць аб укараненні сацыяльнага стандарту, асабліва падкрэслівалі: праца ўладных, гаспадарчых і іншых структур раёна па выкананні большасці з 43 культываваных у раёне нарматываў была напружанай і карпатлівай. І ніякім чынам не нагадвала ўзнёслае парадное шэсце з прыняццем нейкіх асобных лакіровачных арганізацыйных мер. Паводле іх слоў, найбольшыя цяжкасці адчуваліся там, дзе для вырашэння пытанняў патрэбны былі немалыя фінансавыя сродкі. Да прыкладу, толькі для выканання нарматыву па забеспячэнні вучняў школ персанальнымі камп'ютэрамі і набыцці для гэтага шасці камп'ютэрных класаў было выдаткавана каля 30 мільёнаў рублёў.

Станоўчая ацэнка Прэзідэнтам краіны зробленага на Нараўляншчыне па ўкараненні сістэмы дзяржаўнага сацыяльнага стандарту, як і дасягнутага ў добраўпарадкаванні населеных пунктаў раёна, канечне ж, не можа не радаваць. Тым больш што гэтым шляхам, узяўшы за прыклад лепшы вопыт нараўлян, сёння ідуць іншыя рэгіёны вобласці і краіны. Між тым кіраўніцтва раёна зробленае ацэньвае даволі самакрытычна. Не інакш, як частку вялікай дыстанцыі, якую яшчэ патрэбна пераадолець. Заняць вышыню – ганарова, зазначаюць тут, але не менш важна не здаць яе. Прыведзены напрыканцы нашай гутаркі з кіраўніком нараўлянскай «вертыкалі» прыклад як мага лепш пацвярджае сказанае. Вясковыя водаправодныя сеткі на Нараўляншчыне маюць працягласць каля 140 кіламетраў (для параўнання: у суседнім Ельскім раёне – каля 40 кіламетраў), амаль усе яны пракладзены ў год чарнобыльскай катастрофы. Зразумела, сённяшні стан водаправодаў вымушае актыўна займацца іх рэканструкцыяй. Між тым, як зазначыў Валерый Шляга, падтрыманне нарматываў стандарту ў сельскім водазабеспячэнні патрабуе немалых сродкаў не толькі на мантаж сетак, але і іх утрыманне і абслугоўванне. У раённым бюджэце прамых крыніц фінансавання такой дзейнасці няма. Прыцягнуць жа на гэту справу сродкі вяскоўцаў, якія карыстаюцца водаправодам, таксама практычна немагчыма. Забяспечыць персанальны ўлік расходавання вады з вулічных калонак, адкуль яе спажывае большасць сельскіх жыхароў, мы, на жаль, яшчэ не навучыліся...

***Мікола ЖДАНОВІЧ, «Рэспубліка»***



# Злачынствы недараваныя



***Яўрэі ў Друі жылі здаўна. Сведчаннем таму – вялікі старадаўні яўрэйскі могільнік за пасёлкам, што захаваўся і сёння. Адной з самых шматлікіх была друйская яўрэйская абшчына і да Вялікай Айчыннай вайны. Незвычайнай прыгажосцю і рэдкай бібліятэкай славілася тутэйшая сінагога, узведзеная яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя.***

Сінагогу гітлераўцы спалілі ў час ліквідацыі Друйскага гета. У адзін дзень – 15 чэрвеня 1942 года – перастала існаваць і ўся мясцовая яўрэйская абшчына.

...Пад аўтаматныя чэргі іх зганялі на бераг ракі Друйкі. Тут жа была вырыта агромністая яма, куды скідвалі расстраляных – мёртвых і паўжывых. Па словах відавочцаў, нават прыкапаная потым зямлёй, яна яшчэ доўга шавялілася і сачылася крывёю. 750 чалавек былі пахаваны на месцы, дзе цяпер устаноўлены помнік. «Кроў іх крычыць да нябёсаў...» – гаворыць на ім надпіс.

Але расстраляных у Друі было разы ў тры больш, бо ў тутэйшае гета звозілі яўрэяў з усіх наваколляў. Дзе пахаваны астатнія – да гэтага часу застаецца невядомым. З дапамогай відавочцаў таго страшнага чэрвеньскага дня мясцовыя жыхары некалькі разоў спрабавалі адшукаць другую яму-магілу, каб устанавіць над ёй памятны знак. Але пакуль безвынікова.

З друйскіх яўрэяў удалося выратавацца толькі дваццаці чалавекам. Тады яны былі дзецьмі. Цяпер – пажылыя людзі. Ніхто з іх пасля вайны не застаўся ў пасёлку: надта страшная памяць. Жывуць у Ізраілі і ЗША. Але родныя месцы не адпускаюць. Апошнія некалькі гадоў яны практычна штогод прыязджаюць у Друю сем'ямі, з дзецьмі і ўнукамі. Наведваюць старадаўні могільнік, прыносяць кветкі да помніка расстраляных, сустракаюцца з жыхарамі пасёлка, дапамагаюць ім, чым могуць.

...Сёння ў Друі жывуць каля паўтары тысячы чалавек. І няма сярод іх яўрэяў. Але памяць аб земляках тут шануюць і беражліва захоўваюць. Не так даўно нават адну з вуліц пасёлка перайменавалі ў гонар Алтэра Друянава – пісьменніка, фалькларыста, гісторыка, грамадскага дзеяча, які жыў у пасёлку да вайны. Між іншым, яго імя носіць адна з цэнтральных вуліц Тэль-Авіва. І вось ужо тры гады – сціплая і ўтульная вулка ў Друі.

*(Паводле друку)*

# Аздабленне покуці ў вясковай хаце

***Калі зойдзеш у краязнаўчы музей, то пабачыш – вісіць у куце абраз з касабокім ручніком. Глядзіш у тэатры пастаноўку, а дзея адбываецца ў інтэр'еры, зноў – абраз у куце, абапал яго звісаюць скручаныя канцы ручніка, тое ж – у кіно... Але, вандруючы па краіне, ёсць магчымасць пабачыць мноства рэгіянальных адметнасцей у аздабленнях покуці ў вясковай хаце. І вельмі добра, што адразу ёсць магчымасць вызначыць канфесійную, нацыянальную прыналежнасць гаспадароў. Так, у праваслаўных абраз вісіць у куце; у каталікоў – пры куце; стараверы мацуюць палічку ў куце і ставяць абраз; пратэстанты вышываюць, малююць словы з Евангелля і ў рамках вешаюць на сцяне; татары пры куце месцяць «мугіры», а ў яўрэяў высока ўгору ўзнесена шасціканцовая зорка.***

Здавалася б, маленькая дэталь у інтэр'еры тая святыня, але праз яе ішла пастаянная зрокавая сувязь з Богам, з ёй выпраўлялі ў дарогу, зычылі шчаслівага сямейнага жыцця, а пры хатняй спрэчцы выпадкова кінуты позірк у яе бок не раз стрымліваў лютасць; для немаўлят разуменне мастацкай культуры ў інфармацыйна-адукацыйнай прасторы якраз пачыналася з гэтай хатняй святыні. Паколькі ніхто з фальклярыстаў не звяртаў увагі на такую праблему, то і дае аб сабе знаць стандарт у творчасці мастакоў-афарміцеляў экспазіцыі музеяў, мастакоў тэатра і кіно... нават застаецца па-за ўвагай пісьменнікаў. І тым самым недаацэньваецца набожнасць вернікаў на землях усходніх славянаў.

У параўнанні з праваслаўнымі, старaверамі каталікі абразоў не аздабляюць, але густ гаспадыні, творчы патэнцыял усёй сям'і ў нейкім разе праяўляецца праз рэчы, што тычацца мастацкага аздаблення пад імі. Тут можа вісець самаробны ружанец, драўляны крыжык, вербачка, адметна аздобленая, а на этажэрцы ці спецыяльным століку стаяць скульптурныя выявы святых, букецік з засушаных красак (цяпер кветкі ўсё часцей штучныя).

Па Беларусі сустракаюцца вёскі, напрыклад Сіманы Мядзельскага раёна, дзе і праваслаўныя не вешаюць ручнікі на абразы. Тутэйшая традыцыя абумоўлена тым, што ў прынарачанскіх вёсках мужчыны займаліся рыбалоўствам, на плечы жанчын клаўся ўвесь клопат па гаспадарцы, не ставала часу для вырабу прыгожых «набожнікаў».

Значнай адметнасцю ў аздабленні покуці вызначаюцца вёскі Барысаўка, Клетышча і навакольныя ў Кобрынскім раёне. Тут абразы вісяць над тымі вокнамі, якія ўтвараюць чырвоны кут, а ручнікоў таксама на іх няма. На пытанне «як святары глядзяць на такое нязвыклае аздабленне покуці?» чуеш адказ: «Ніколі заўваг не рабілі».

У старавераў, асабліва Гомельшчыны, акрамя аднаго абраза, на палічцы можна пабачыць абапал яго, па двух сценах, іншыя, пакрытыя зверху адным ручніком. Такая мода выклікала патрэбу ў доўгіх ручніках, часам больш за тры метры, як, напрыклад, неглюбскія.

Вельмі істотны момант для разваг даследчыкаў нацыянальнай культуры: як простыя вясковыя сялянкі, нічога не ведаючы аб колеры Турынскай плашчаніцы, змаглі сілай традыцый пранесці праз многія стагоддзі моду ткаць, вышываць набожнікі з узорамі толькі чырвонага колеру; а вось з XIX стагоддзя пачалі ўводзіць крышку чорнага, што не пярэчыла смутку жалобы. Дзесьці з 60-х гадоў XX стагоддзя традыцыі парушыліся – малаверныя ўмеліцы пачалі штукаваць такія рэчы шматкаляровымі.

У гады ваяўнічага атэізму праваслаўныя хрысціяне хутка зарыентаваліся і, каб не хаваць абраз у шафе ці спальні, завесілі паркалёвай вышытай фіранкай. У такім разе пры столі вешалі гарызантальна адну яе частку, а з-пад яе апускаліся дзве іншыя па лавінкі, абраз узнімалі ўгору, пад ім мацавалі ручнічок, што закрываў сабою кут, абапал яго на сцяне размяркоўвалі канцы другога. За такім складаным аздабленнем можна было пабачыць абраз, калі падысці блізка да кута ды адгарнуць занавесачку.

Рэха ваяўнічага атэізму дакацілася да 90-х гадоў XX стагоддзя ў вёску Качаны Бадзені Мядзельшчыны і перарасло тут у традыцыю – заклейваць абраз разам са шклом, рамкай тымі ж шпалерамі, што і на сцяне. Толькі праз маленькую адтуліну была магчымасць бачыць вочы святога. Рабілася гэта дзеля таго, каб абраз не кідаўся ў вочы начальніку-атэісту, які заходзіў у хату.

Як адзін з прыкладаў аздаблення покуці мастацкімі рэчамі з паперы паказала ў вёсцы Агаркі-Дварышча Мядзельшчыны Надзея Купрэвіч. А так некалі рабіла і яе маці. Спачатку пад абразом пад самую столь зрабіла «надстрэшнік», а гэта быў кардон з наклеенай загадзя асобна выразанай выцінанкай. Пад абразом на ўсю шырыню прыклеіла другую прыгожую выцінанку, а абапал прымацавала разрэзаную надвое каляровую гафрыраваную паперу і перавязала каляровай стужкай; папяровы вяночак з малюсенькіх кветачак, таксама асобна змайстраваных, павесіла на абраз пад шклом. Хутчэй за ўсё традыцыі аздаблення выцінанкамі абразоў ніколі і не перарываліся, бо ў 2003 годзе давялося нам пабачыць, як 83-гадовая Вера Смоўж з вёскі Бярозаўка Стаўбцоўскага раёна рупліва рабіла да Вялікадня ўпрыгажэнні з паперы, каб дапоўніць імі вышытыя ручнікі. І хоць у гэтым выпадку маем справу з бедным самаробным аздабленнем, але ж праз яго, што ні кажы, праяўляецца талент, эстэтычны густ жанчыны. Гэта з аднаго пункту гледжання, а з рэлігійнага – ахвяра Богу.



***Увогуле, памеры артыкула не даюць магчымасці грунтоўна засяродзіцца на адметнасці аздаблення покуці ў вясковай хаце, але гэтым матэрыялам у гадавіну «Краязнаўчай газеты» імкнёмся нагадаць – такое выданне можа прыдаць «глыток свежага паветра» для вучоных акадэміі, творчых работнікаў культуры. А тады чакае яго доўгі лёс, бо культура па раёнах краіны вельмі разнастайная ды мала даследаваная.***

***Марыя ЖАБІНСКАЯ, мастак, фальклярыст***

*Выдаў райвыканкам*

# Прызнанне ў любові да Верхнядзвіншчыны

***Нядаўна выйшла з друку кніга пра Верхнядзвінскі раён, якую з цікавасцю прачытаюць ды паглядзяць не толькі жыхары раёна, але і госці. Тэкст яе падрыхтаваны аддзелам інфармацыі Верхнядзвінскага райвыканкама, фотаздымкі зроблены Валерыем Салаўёвым.***

Адкрываецца выданне прывітаннем старшыні райвыканкама І. Палачаніна, словам дэпутата райсавета, ветэрана працы, кавалера ордэнаў Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга В. Сяргушкі ды вершам краязнаўцы А. Бубалы:

*Шчырым сэрцам табе*
*Прысягаю ў вернасці я,*
*Верхнядзвінскі мой край,*
*Маё шчасце і песня мая.*

Далей – геаграфічныя звесткі пра гэты край, кароткая гісторыя старажытнай зямлі ад часоў засялення ў эпоху мезаліту, заснавання легендарнага Одрыська, пазнейшай Дрысы, да дзён і справаў сённяшніх. Толькі шкада, што падзеям да 1812 года прысвечана літаральна два абзацы з трох старонак, адведзеных гісторыі Верхнядзвіншчыны. Пасля гэтага шмат распавядаецца пра сённяшні дзень раёна, пра помнікі гісторыі, культуры, цікавыя мясціны – рэкі, азёры, урочышчы, старадаўнія дрэвы...

Добрым дапаўненнем да ўсяго – здымкі мясцовага фотамайстра, вершы паэтаў-землякоў.

Для патрэбаў паўсядзённага жыцця – найбольш запатрабаваны тэлефоны і адрасы – вакзалаў, аўтастанцыі, гасцініцы, камунальнай службы, банкаў і інш.

*І хай Дзвіне, яе дачушцы Дрысе*
*Не зменшыцца крынічнага пітва.*
*Жадаю хлопцу светлай шлюбнай долі,*
*Дзяўчынцы – журавіначкаю быць,*
*Каб на зямлю прыдзвінскую ніколі*
*Не змог ніякі вораг наступіць.*

Такія словы прысвяціў верхнядзвінцам паэт Сяргей Панізьнік, які амаль трыццаць гадоў таму на гэтай зямлі, у Цінкаўцах, «на шляху з варагаў у грэкі» стварыў этнаграфічны музей «Хата бабкі Параскі» і ўжо стаў тут сваім, хаця нарадзіўся ў суседнім раёне.

І апошняе: густоўна аздобленае выданне, з добрымі паліграфічнымі якасцямі (не сорам гасцям паказаць ды падараваць!) выйшла цалкам на беларускай мове. Любяць тут сваю зямлю.

***Лявон ПАЛЬСКІ***




*Тэхніка-гандлёвыя навіны*

## Вось гэта аўтакран

ААТ «Магілёўскі завод транспартнага машынабудавання» выпусціла першую партыю новых аўтакранаў грузапад'ёмнасцю 25 тон на базе шасі расійскага аўтамабіля КамАЗ.

Новы аўтакран распрацавалі заводскія спецыялісты па заказе беларуска-расійскага гандлёвага дома «Машэка», адкрытага летась у Маскве. 51 працэнт акцый гэтага гандлёвага прадпрыемства належыць «Магілёўтрансмашу» і 49 працэнтаў – расійскаму боку. Праз гандлёвы дом і будуць рэалізоўвацца на расійскім рынку беларускія аўтакраны. Яны прызначаны для работы на будоўлях, пагрузачна-разгрузачных пляцоўках і на іншых аб'ектах.

На заводзе выпускаюцца таксама аўтакраны грузапад'ёмнасцю 15 і 25 тон на базе шасі беларускага аўтамабіля МАЗ, рэфрыжэратары, паўпрычэпы 60 тыпапамераў і іншая прадукцыя. Да 80 працэнтаў яе пастаўляецца на экспарт у блізкае і далёкае замежжа.

## Трэці салон-крама «Беларусь» у Туле

У Туле сёлета плануецца адкрыць ужо трэці салон-краму «Беларусь», дзе будуць прадавацца тавары выключна беларускіх вытворцаў.

Прадукцыя беларускіх вытворцаў стала ў гэтым расійскім горадзе своеасаблівым сімвалам практычнасці, надзейнасці і доўгатрываласці. Сёння мінскія халадзільнікі «Атлант», брэсцкія газавыя пліты «Гефест», магілёўская мэбля ад «Ольсы», тканіны ад «Магатэкса», вырабы індывідуальных прадпрымальнікаў карыстаюцца нязменным попытам у жыхароў Тульскага рэгіёна.

Для развіцця і ўмацавання эканамічных сувязей Гандлёвая палата Тулы стварыла камітэт па супрацоўніцтве з Беларуссю, куды ўвайшлі 12 буйных прадпрыемстваў Тулы і Тульскай вобласці. Яго асноўная мэта – прасоўванне тульскіх тавараў у Беларусь, наладжванне партнёрскіх кааперацыйных стасункаў з прамысловымі прадпрыемствамі.

***Вячаслаў БУДКЕВІЧ***





## Скарб памяці на Замкавай гары

Дні нараджэння святкуюць не толькі людзі і не толькі гарады, але яшчэ і... курганы. Ва ўсякім разе, калі яны з'яўляюцца помнікамі культуры і гісторыі. Напрыклад, Кургану Бессмяротнасці ў Навагрудку – своеасабліваму мемарыялу Адама Міцкевіча – споўнілася нядаўна 80 гадоў.

Закладка гэтага незвычайнага помніка пачалася ў 1924 годзе пасля прыезду на Навагрудчыну старэйшага сына славутага паэта, Уладзіслава Міцкевіча (на той момант яму было ўжо 86 гадоў). Прынятае рашэнне – насыпаць на Замкавай гары паводле старажытнай славянскай традыцыі вялізны курган – перапісалі на пергамент, запячаталі ў скрыню і зацэментавалі на месцы будучага мемарыяла. А зямлю для яго, дарэчы, збіралі «ўсёй грамадой» – нават па пошце прыходзілі пасылкі з паметкай «Навагрудак. Для ўшанавання памяці А. Міцкевіча».

Вышыня мемарыяла, які быў урачыста адкрыты ў 1931 годзе, склала 17 метраў; да вяршыні помніка праклалі спецыяльную сцяжынку, якая захавалася і зараз. Між іншым, на Беларусі гэта адзіны ўзор падобнага мемарыяла, так што колькасць экскурсій да Кургана Бессмяротнасці не змяншаецца – тым больш што сёння Навагрудак святкуе 960-годдзе.

***Вікторыя ЗАХАРАВА***

## Народны майстар родам з Кністушак



***У нашым друку ўжо неаднойчы пісалася пра літоўскую мастачку з Вільнюса Бірутэ Куцкайтэ, яе выставу «Лятаючы кот», што пабывала вясной у Мінску і іншых гарадах Беларусі. Яна наша суайчынніца: нарадзілася ў вёсцы Кністушкі цяперашняга Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці.***

Не менш цікавай асобай быў і бацька мастачкі, таксама мастак – славуты рэзчык па дрэве, сябар Таварыства народнага мастацтва Літвы. Часта выстаўляўся. Але ў Беларусі, на радзіме, яго творчасць невядомая. Прысланыя з Літвы матэрыялы дазваляюць расказаць пра народнага майстра падрабязней.

Уладас Куцка нарадзіўся 16 кастрычніка 1900 года на Гродзеншчыне ў вёсцы Кністушкі, дзе жылі і жывуць літоўскія сяляне, якія ўтвараюць у ваколіцах Гервят і Рымдзюн (у «Гервяцкім краі») свой этнічны астравок са старадаўнімі і таму арыгінальнымі каранямі.

Уладас быў старэйшым сярод братоў і сясцёр, таму з ранняга дзяцінства на яго плечы лягла цяжкая сялянская праца. Ён вельмі хацеў вучыцца, ды аб гэтым даводзілася толькі марыць. Маці, вядомая на ўсю акругу пявуння і ткачыха, па польскім лемантары пазнаёміла хлопчыка з літарамі, пазней ён тры зімы наведваў рускую пачатковую школу ў суседняй вёсцы Гіры, а далей ужо сам здабываў сабе веды.

У дзяцінстве Уладас зацікавіўся разьбой па дрэве і, павучыўшыся трохі ў сваяка ды набыўшы такарны варштат, пачаў, на радасць вясковым жанчынам і дзяўчатам, выштукоўваць прыгожыя калаўроты, розныя ўпрыгажэнні. Толькі ў 1921 годзе, калі ў Кністушках адкрылася літоўская школа, ужо дарослым хлопцам вечарамі Уладас наведваў разам з іншай моладдзю заняткі і такім чынам атрымаў пачатковую адукацыю на роднай мове. Тады ж ён стаў удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці, распаўсюджваў літоўскую перыёдыку, пачаў друкавацца. Актыўна выступаў супраць польскай акупацыі Заходняй Беларусі, забароны ў Гервяцкім касцёле весці службу на літоўскай і беларускай мовах, адстойваў правы літоўцаў, за што знявольваўся ў ашмянскай турме і трапляў нават у сумнавядомыя ў віленскім краі Лукішкі. У гэты час пачалося яго сяброўства з выхадцам з Астравеччыны Юліянам Стэпанавічусам, будучым віленскім архібіскупам, якое працягвалася ўсё жыццё. У Вільні сустракаўся таксама са славутым літоўскім дзеячам Йонасам Басанавічусам.

І ўвесь час У. Куцка не расставаўся з дрэвам – майстраваў калаўроты, пранікі, качалкі, лыжкі, іншыя побытавыя прылады, упрыгожваў іх рознымі ўзорамі, дарыў сваім сёстрам, сваякам, суседкам. З цягам часу так удасканаліў сваё майстэрства, што яно перарасло ў мастацтва. З карэльскай бярозы, дубу, клёну, ясеню, акацыі майстраваў прыгожыя шкатулкі, чарніліцы, рамкі для карцін і люстэркаў, выточваў каралі, бранзалеты, брошкі, дэкаратыўныя талеркі, паверхню якіх пакрываў народнымі арнаментамі – птушачкамі, ёлачкамі, сонейкамі, зубчыкамі.

З таленавітымі працамі майстра шырокая грамадскасць пазнаёмілася ў 1935 годзе на арганізаванай у Вільні выставе прац народнага мастацтва, дзе У. Куцка атрымаў дыплом І ступені.

Пасля вайны майстар жыў у Вільні. Шмат гадоў працаваў на камбінаце «Дайле» («Мастацтва»), на мэблевым камбінаце, увечары займаючыся сваёй любімай працай. У 1967 годзе стаў сябрам Таварыства народнага мастацтва Літвы. Быў удзельнікам шматлікіх выстаў. У 1975 годзе была арганізавана персанальная юбілейная выстава слыннага майстра, на якой вока радавала не толькі высокае майстэрства выканання, але і яго тонкае адчуванне прыгажосці дрэва, выдатнае выяўленне фактуры матэрыялу.

Сёння нават немагчыма ўявіць, колькі прац У. Куцкі, створаных з такой карпатлівасцю, цеплынёй і любоўю, разышлося па свеце. І цяпер яшчэ вясковыя кабеты з ваколіц Кністушак у зімовыя вечары сядаюць за калаўроты, успамінаючы добрым словам свайго таленавітага земляка, які таксама ніколі не забываў сваёй малой радзімы, прыгожай вёскі на маляўнічым беразе Ашмянкі – часта наведваўся туды, цікавіўся жыццём сваякоў і суседзяў.

Памёр У. Куцка 7 сакавіка 1994 года ў Вільні, пахаваны на Раканцішскіх могілках.

Памяць пра яго зберагаюць не толькі дочкі Бірутэ і Ніёле, да нядаўняга прыма-балерына Вільнюскай оперы, але і шматлікія паслядоўнікі, землякі.

***Яніна КІСЯЛЁВА***






## 1609–1656 Казімір Леў Сапега

Казімір Леон, або Казімір Леў Сапега, (15 ліпеня 1609 г., Вільня – 19 студзеня 1656 г., Бярэсце), гербу «Ліс». Прадстаўнік старадаўняга беларускага шляхецкага роду. З полацкіх баяраў. Дзяржаўны і вай-сковы дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Займаў пасады пісара вялікага, пасля маршалка надворнага, потым падканцлера Вялікага княства Літоўскага. Малодшы сын канцлера, а потым гетмана вялікага беларуска-літоўскай дзяржавы Льва Сапегі і яго другой жонкі Гальшкі (Эльжбеты) Радзівіл. Хроснымі бацькамі Казіміра Льва Сапегі былі жонка караля і вялікага князя Жыгімонта Вазы, каралева Канстанцыя, і яго сын, каралевіч Уладзіслаў. Калі Казіміру Льву было два гады, памерла яго маці, і бацька гадаваў малодшых дзяцей адзін. Выхаваннем хлопчыка займаўся яго родны дзядзька, вядомы вайсковец (а потым і гетман вялікі) Крыштоф Радзівіл. Тут сябрам яго быў дваюрадны брат Януш Радзівіл, які потым стаўся гетманам вялікім. Але хутка іх лёс развёў: Казімір Леў быў каталікам, а Януш Радзівіл, як і яго бацька, стаўся лідэрам кальвіністаў. Прымала ўдзел у яго выхаванні і каралева Канстанцыя, якая пэўны час жыла і ў Вільні. Пасля хатняга выхавання Казімір Леў Сапега вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі.

7 ліпеня 1633 года памёр найбуйнейшы палітычны дзеяч беларуска-літоўскай дзяржавы XVII стагоддзя Леў Сапега. Цяпер Казімір Леў Сапега рабіў палітычную кар'еру самастойна, без падтрымкі бацькі.

У маі 1637 г. Казімір Леў Сапега атрымаў тытул маршалка надворнага літоўскага, які кіраваў вялікакняжацкім дваром у Вільні, загадваў цырымоніямі, размяшчэннем двара. Хаця гэты тытул быў ніжэйшы за маршалка вялікага літоўскага, аднак ён даваў права засядаць у сенаце, вышэйшай палаце сойма Рэчы Паспалітай. Так К.Л.Сапега ўвайшоў у склад сенату. У гэты час пачынаецца саперніцтва Сапегі з Радзівіламі.

6 сакавіка 1645 г. падчас пасяджэння сойму Казімір Леў Сапега атрымаў ад караля пасаду падканцлера Вялікага княства Літоўскага і Рускага.

У Казіміра Льва Сапегі ўсталяваліся добрыя стасункі з каралём Янам Казімірам, што ўзмацніла пазіцыі магната ў яго на радзіме. К.Л.Сапега ўзначаліў «прыдворную партыю» ў Вялікім княстве Літоўскім, на якую абапіраўся кароль і вялікі князь Ян Казімір. У 1649 г. Сапега атрымаў Рагачоўскае староства і Берасцейскую эканомію (з абавязкам выплаты з яе ў скарб дзяржавы штогод 55 тысяч злотых).



Ганаровая тарча Л. Сапегі з гербам «Ліс»



Надмагілле Сапегаў у касцёле Св. Міхала ў Вільні

Маючы вялікія багацці, быў фундатарам касцёлаў і мецэнатам. Так, ён быў фундатарам кляштара картузаў у Бярозе (1648 г.), узвёў мураваны касцёл Святой Тройцы і кляштар бернардынаў у Друі (1640–1646 гг.) і ў Гародні (1648 г.), фундаваў кармелітаў у Бялынічах і езуітаў у Бярэсці (1653 г.), бернардынаў і рэгулярных лютэранскіх канонікаў у Слоніме, боніфратраў і езуітаў у Навагрудку, дамініканаў у Чарнобылі, пабудаваў касцёлы ў Беразіно, Бешанковічах, Сямятычах, Дзяцелу і Чарэі, уніяцкую царкву ў Шчаўрах, шпіталі ў Ружане і Талачыне. За 63 тысячы талераў фундаваў сярэбраную труну для мошчаў архіепіскапа полацкага Іясафата Кунцэвіча.

Пры сваім двары ў Ружане (Ружанах) ён арганізаваў капэлу. Тут жа была бібліятэка (каля 3 тысяч тамоў), з якой кніжкі ён даваў часова каралю Уладзіславу Вазу. Пасля гэтая бібліятэка была перададзена ў Віленскую акадэмію. Для гэтай акадэміі ён фундаваў адкрыццё кафедраў кананічнага і цывільнага права, а потым запісаў прыбыткі з маёнтка Пачаевічы (Аршанскі павет) на ўтрыманне чатырох прафесараў кананічнага і цывільнага права. Казімір Леў Сапега тытулаваўся графам на Быхаве і Сапежыне. Лічыўся сучаснікамі добрым прамоўцам і руплівым гаспадаром. Увайшоў у гісторыю як палітычны дзеяч сваёй неспакойнай для краю эпохі.

***Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ***

# След у душы

*Ёсць людзі, сустрэчы з якімі назаўжды пакідаюць след у душы. Яны падкупаюць шчырасцю. Інакш не скажаш аб сяброўскім стаўленні былога настаўніка Дзярэчынскай СШ П.М. Марціноўскага да выпускнікоў школы і тых, хто неабыякавы да паэтычнага радка, а да матчынай мовы ставіцца як да нацыянальнага і культурнага скарба.*

Пётр Мікалаевіч і цяпер нязменны кіраўнік літаратурнага аб'яднання пры зэльвенскай раённай газеце «Праца». А яго гасцінную хату ў Дзярэчыне наведала не адно пакаленне літаратараў і творчай інтэлігенцыі. І сёння гэты чалавек з ласкавым позіркам вачэй і пастаянна лагоднай усмешкай на твары вядзе немалое ліставанне з сябрамі.

Былы вучань Міхась Скобла яшчэ ў школе пісаў у адным з вершаў, што «спадчына – песня матчына...», а як жа інакш... Бо і яго паэтычны радок шліфаваўся на вялікіх перапынках у пакоі завуча. Памятаю, як у 1990 годзе ў газеце «Праца» рыхтаваў да друку аўтарскі матэрыял Пятра Марціноўскага аб сустрэчах з беларускай паэткай Ларысай Геніюш з назвай «Наша Лорка», які з`явіўся да 80-годдзя з дня нараджэння славутай паэткі ў тэматычным выпуску «У вянок юбіляру» літстаронкі «Зоры над Зальвянкай».

І вось праз колькі гадоў ужо на Карэліччыне поштай атрымліваю кніжку ўспамінаў Пятра Марціноўскага з больш кароткім побытавым выразам у назве – «Наша Лорка», бо так ласкава называлі яе землякі-вяскоўцы. Добра, што застанецца выдатны ўспамін пра славутую паэтку Ларысу Геніюш, які прасякнуты шчырасцю пачуццяў і прастатой у штодзённым побыце, адданасці роднаму краю і беларускасці. Адным словам тым, чым жыла Л. Геніюш як чалавек. І гэтая сяброўская моц, добрае стаўленне да людзей, вяскоўцаў, яе самаадданасць і справы выдатна адчуваюцца ва ўспамінах П.М. Марціноўскага.

Аўтар распавядае пра першапачатковы змест верша «Зубры і зубраняты», падаюцца ўрыўкі з незакончанай паэмы Геніюш, што прысвечана рэпрэсіям на Беларусі ў 30–50 гадах, пра сяброўства паэткі з Уладзімірам Караткевічам. Удала дапаўняюць змест літаратурна-мастацкага выдання вершы пра Ларысу Геніюш паэтаў Гродзеншчыны, а таксама фотаздымкі з архіва аўтара і сям`і Геніюшаў. Найбольш яскрава адчуваецца шчырасць, маральнасць і саўдзел у лёсах знітаваных жыццём простых людзей і ў так званай эпістalярнай спадчыне вядомай паэткі Геніюш і праз паштоўкі. А сустрэча іх была выпадковай і адбылася дзякуючы цудоўнаму кветніку жонкі Пятра Марціноўскага – Ірыны Рыгораўны – перад хатай у Дзярэчыне. Бо Ларыса Геніюш вельмі любіла кветкі, была шчырай жанчынай і, найперш, хрысціянкай у жыцці.

Знаёмства Пятра Марціноўскага і Ларысы Геніюш адбылося пасля вызвалення паэткі з ГУЛАГа і яе прыезду ў Зэльву на пастаяннае месца жыхарства. Кніга майго земляка і школьнага настаўніка П.М. Марціноўскага сталася прыемным падарункам не толькі для мяне асабіста, але і падзеяй у літаратурным жыцці. З задавальненнем цытую водгукі на кнігу ўспамінаў філолага з Дзярэчына. Народны пісьменнік Беларусі Ніл Гілевіч у лісце за 11 студзеня 2003 года да аўтара піша: «Прачытаў – і Вашы ўспаміны, і ліст, і вершы землякоў з праўдзівай цікавасцю. Здавалася, столькі ведаю пра Ларысу Антонаўну, а Вы прыадкрылі і яшчэ сёе-тое, што далучылася ў маёй уяве да яе святога вобраза. Вы шчаслівы чалавек, што столькі гадоў ведалі нашу найвялікшую Паэтку і Грамадзянку асабіста, сустракаліся і гутарылі з ёю, бывалі часта ў гасцях. Сам Бог, няйначай, падказаў Вам зрабіць гэту кніжыцу. А як цёпла, як шчыра, якой простай чалавечай мовай яна напісана. І вершы надта добрыя падабралі. Адно засмучэнне – наклад 200 асобнікаў. Ну, але гэта ўжо такая доля наша».

А вось лістападаўскія допісы 2002 года ад гродзенцаў – паэтка Д. Бічэль-Загнетава з удзячнасцю ўспрыняла гэткую нечаканасць: «Дзякуй, мілы Пётра, за такі прыемны падарунак – кожнае слова пра нашу выхавацельку разварушвае ўспаміны таго часу, які адышоў не бясследна». А прафесар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы А. Пяткевіч прызнаецца, што «кніжка атрымалася цікавай. Вельмі дарэчы ў ёй вершы, мне найбольш да душы – Валянціны Ададуравай. Вашы ўспаміны – гэта тое, чаго ніхто іншы не ведае пра Л. Геніюш. Прынамсі, падрабязнасці, канкрэтыка, што найбольш каштоўнае ва ўспамінах, толькі Вашы, і гэта Ваша адкрыццё паэткі».

Ведаю, што многае з таго, што хацеў падаць аўтар, не ўвайшло ў кнігу. Але гэта той след, які пакінула ў сэрцы і душы Пятра Марціноўскага беларуская паэтка Ларыса Геніюш – «пяснярка душ чалавечых». Дагэтуль не рэабілітаваная на Беларусі.

*Пётр ЖЭБРАК,*
*Карэліцкі раён*

# Едуць у Пушчу...

Як паведаміў БелаПАН дырэктар парка-запаведніка «Белавежская пушча» Мікалай Бамбіза, калі за ўвесь мінулы год тут пабывала крыху больш за 60 тысяч турыстаў, то сёлета толькі за 5 месяцаў – ужо 53 тысячы чалавек. З галоўным запаведнікам Беларусі азнаёміліся прадстаўнікі 33 краін, у тым ліку з такіх далёкіх рэгіёнаў свету, як Афрыка, Аўстралія, Лацінская Амерыка.

Кіраўніцтва запаведніка тлумачыць гэта паляпшэннем турыстычнай інфраструктуры пушчы. Наведвальнікі ў першую чаргу цікавяцца рэзідэнцыяй беларускага Дзеда Мароза, якая адкрылася ў канцы 2003 года і працуе круглы год. Апрача абноўленага гатэля ў Камянюках, пад гатэль пераабсталёўваецца былы адміністрацыйны будынак, дзе будзе 50 двухмесных нумароў. Пашырыць свае магчымасці і мясцовы рэстаран – там цяпер ідзе рэканструкцыя. Для прыхільнікаў экалагічнага турызму, аматараў палявання і рыбнай лоўлі плануецца пабудаваць шэраг дадатковых кемпінгаў у самой пушчы.

Такім чынам, у бліжэйшай перспектыве Нацыянальны парк разлічвае прымаць да 200 тысяч турыстаў штогод.

***Ларыса ШЫГАНАВА***

*Школьныя музеі*

# Бялыніцкі раён Магілёўскай вобласці

***Сістэмнае вывучэнне гісторыі роднага краю і далучэнне да яе як мага большага кола людзей немагчыма без школьных музеяў. У выключнай большасці сваёй сціплыя, пазбаўленыя шырокай і дзейснай падтрымкі з боку адміністрацыі школ, яны, тым не менш, у апошні час значна актывізуюць сваю дзейнасць, ажыццяўляючы разнастайныя краязнаўчыя праекты.***

***Пра кожны бялыніцкі школьны музей можна распавядаць шмат. Для першага знаёмства прыводжу толькі мінімум агульных звестак, спадзеючыся на тое, што гэтая інфармацыя паслужыць асновай для наладжвання супрацоўніцтва, абуджэння ўзаемнай зацікаўленасці.***

***Міхась КАРПЕЧАНКА,***
***старшыня рады ГА «Бялыніцкае краязнаўчае таварыства»***

**Народны музей баявой славы СШ № 2,** адрас: *вул. Мічурына, 10а, Бялынічы, 213160.Тэл.(8-0-2232)+51-480*. Кіраўнік – Святлана Міхайлаўна ВІННІКАВА. Заснаваны ў 1975 годзе на базе дадзеных краязнаўчых гурткоў, якія дзейнічалі ў СШ № 2 Бялынічаў. Асноўная экспазіцыя – перыяд Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Бялыніцкага раёна. У фондзе і экспазіцыях захоўваецца больш за 1 000 экспанатаў. Найбольш каштоўнымі зберажэннямі з'яўляюцца калекцыі зброі, касак, баявых дзяржаўных узнагарод, салдацкіх жэтонаў, папяровых грошай перыяду вайны, абмундзіравання савецкага і нямецкага салдатаў, асабістых рэчаў мясцовых франтавікоў, перапіскі, пасведчанняў, пропускаў, фотаздымкаў. Дзейнічаюць 11 асноўных і 6 дапаможных стэндаў. На базе музея працуюць два гурткі: «Баявой славы» і «Музейная справа», лектарская і экскурсійная групы. Званне «народнага» прысвоена 30 чэрвеня 2000 года.

**Музей народнай славы СШ № 1,** адрас: *вул. Калініна, 3, Бялынічы, 213160. Тэл.(8-0-2232)+ 52-370.* Кіраўнік – Анатоль Іванавіч МАРОЗАЎ. Заснаваны ў 1984 годзе. Асноўныя накірункі дзейнасці – перыяд Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі раёна; этнаграфічны; літаратурны. Экспануецца 12 асноўных і 8 дапаможных стэндаў. На базе музея працуюць гурткі «Юны гісторык», «Гісторыкі-краязнаўцы», сябры якіх ажыццяўляюць навукова-пазнавальную праграму «Мой родны кут».

**Музей радзімазнаўства Вішоўскай СШ,** адрас: *вёска Вішоў Бялыніцкага раёна, 213166. Тэл. (8-0-2232)+35-175.* Кіраўнік – Мая Віктараўна САЛАЎЁВА. Заснаваны ў 2000 годзе. Асноўную частку экспазіцыі складаюць матэрыялы па гісторыі вёскі Вішоў, мясцовых сярэдняй школы і сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Калгас «Радзіма». Маюцца калекцыя мясцовага жаночага касцюма, багатая экспазіцыя саломапляцення. Пры музеі працуюць гурткі «Экскурсаводы-краязнаўцы», «Забытыя рамёствы роднага краю». На базе музея ў 2001 годзе праведзены Чацвертыя бялыніцкія краязнаўчыя чытанні, якія арганізоўваюцца ГА «Бялыніцкае краязнаўчае таварыства».

**Краязнаўчы музей Свяцілавіцкай СШ,** адрас: *вёска Свяцілавічы Бялыніцкага раёна, 213169. Тэл. (8-0-2232)+34-632.* Кіраўнік – Наталля Сяргееўна КАРАЛЁНАК. Заснаваны 8 мая 1995 года. Асноўныя экспазіцыі прысвечаны перыяду Вялікай Айчыннай вайны, гісторыі мясцовага СВК «Калгас імя Заслонава». Экспануецца дзевяць стэндаў. Захоўваюцца картатэка на загінулых партызанаў, копіі некаторых арыгіналаў дакументаў Ваенна-гістарычнага архіва Расіі, Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны Расіі, пісьмы – успаміны ўдзельнікаў абароны Бялынічаў Івана Варанкова, Валянціна Чуракова, успаміны мясцовых падпольшчыкаў. Сабраны багаты матэрыял па развіцці партызанскага руху на тэрыторыі раёна. У музеі захоўваюцца рэшткі рэчаў са спаленай фашыстамі 22 снежня 1942 года бялыніцкай вёскі Стэфанова. Экспануецца калекцыя прыладаў працы неаліту і бронзавага веку, сабраных вучнямі і настаўнікамі школы ў ваколіцах Свяцілавічаў.

**Гісторыка-краязнаўчы музей Эсьмонскага комплексу школа-сад,** адрас: *вёска Эсьмоны Бялыніцкага раёна, 213171. Тэл. (8-0-2232)+37-480*. Кіраўнік музея – Тацццяна Змітраўна ШАСТАК. Ініцыятарам арганізацыі музея і першым кіраўніком яго з'яўлялася настаўніца Н.П. Усціновіч. Адкрыты ў 1972 годзе. Асноўныя экспазіцыі – этнаграфічная, перыяд Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі раёна, славутыя землякі, гісторыя школы, якая дзейнічае з 1853 года і з'яўляецца самай старэйшай у раёне. Сабраны багаты матэрыял па помніках археалогіі Эсьмонскага сельсавета. Дзейнічае гурток юных краязнаўцаў.

**Краязнаўчы музей Цяхцінскага комплексу школа-сад,** адрас: *вёска Цяхцін Бялыніцкага раёна, 213177. Тэл.(8-0-2232)+36-460.* Кіраўнік – Вера Васільеўна САМАЛАЗАВА. Дзейнічае з 1987 года. У 2002 годзе ў сувязі з ліквідацыяй Асман-Касаеўскай базавай школы перададзены экспанаты музея партызанскага руху, што дзейнічаў пры гэтай школе. Асноўныя экспазіцыі – этнаграфічная, краязнаўчая, экалагічная, археалагічная, баявой славы, гісторыя вёскі, школы. Экспануецца 21 стэнд: «З гісторыі вескі Цяхцін», «Удзельнікі штурма Зімняга палаца», «Першыя калгаснікі», «Герой-партызан Асман Касаеў», «Яны змагаліся за Радзіму», «Нашы знакамітыя землякі», «Вітольд Бялыніцкі-Біруля», «Гісторыя школы» і іншыя. Складзена картатэка на 70 мясцовых ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, маецца спіс загінулых воінаў і партызанаў Цяхцінскага сельсавета, захоўваюцца ўспаміны мясцовых партызанаў, франтавікоў, ветэранаў працы. Складзены тры альбомы аб жыцці і творчасці народнага мастака Беларусі і Расіі, акадэміка жывапісу В.К. Бялыніцкага-Бірулі. Дзейнічае гурток «Актывісты школьнага музея».

**Музей баявой і працоўнай славы Запольскай СШ,** адрас: *вёска Заполле Бялыніцкага раёна, 213179. Тэл. (8-0-2232)+36-666.* Кіраўнік – Людміла Апанасаўна ДАЗОРЦАВА. Заснаваны 9 мая 1985 года. Экспануецца 8 асноўных і 7 дапаможных стэндаў, матэрыялы якіх распавядаюць аб удзеле жыхароў Заполля і навакольных вёсак у Вялікай Айчыннай вайне, знакамітых земляках, ветэранах працы. Дзейнічае этнаграфічная выстава, у якой прадстаўлены старадаўнія прылады працы тутэйшых жыхароў, а таксама сурвэткі, посцілкі, абрусы, ручнікі, вязаныя рэчы.



*Бялыніцкі касцёл кармелітаў. З гравюры XIX ст.*

**Музей баявой і працоўнай славы Лебядзянкаўскай СШ,** адрас: *вёска Лебядзянка Бялыніцкага раёна, 213168. Тэл. (8-0-2232)+36-123.* Кіраўнік – Надзея Міхайлаўна БАРЫСОВІЧ. Дзейнічае з 9 мая 1990 года. У экспазіцыі – матэрыялы перыяду Вялікай Айчыннай вайны, гісторыя мясцовага сельгасвытворчага кааператыва «Лебядзянка».

**Музей народнай славы Машчаніцкай СШ,** адрас: *вёска Машчаніца Бялыніцкага раёна, 213173. Тэл. (8-0-2232)+37-147*. Кіраўнік – Аляксандр Аляксандравіч ЛОБАЧ. Дзейнічае з 1985 года, аб'яднаўшыся з краязнаўча-этнаграфічным музеем, які быў заснаваны тут у 1970 годзе. Агульная колькасць экспанатаў – 1 500. Матэрыялы асноўнай экспазіцыі асвятляюць перыяд Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Бялыніцкага раёна і Магілеўскай вобласці. Зберагаюцца дакументы пра жыццё і подзвіг Героя Савецкага Саюза капітана-артылерыста Барыса Хігрына, які 5 ліпеня 1941 года непадалёку ад Машчаніцы ўласнаручна падбіў 6 фашысцкіх танкаў. Зберагаюцца матэрыялы аб перыядзе грамадзянскай вайны на Магілеўшчыне.

**Музей-пакой Бялыніцкага сельскагаспадарчага ПТВ–217,** адрас: *вул. Мічурына, 1, Бялынічы, 213160. Тэл.(8-0-2232)+51-743.* Кіраўнік – Анатоль Іванавіч МАРОЗАЎ. Заснаваны ў 2001 годзе. Налічваецца каля 900 экспанатаў. Дзейнічаюць этнаграфічная, нумізматычная, гістарычная, ваенна-патрыятычная экспазіцыі. Працуе краязнаўчы гурток.

**Краязнаўчы музей СВК «Калгас «Наша перамога»,** *адрас: вёска Галоўчын Бялыніцкага раёна, 213164. Тэл. (8-0-2232)+38-735.* Кіраўнік – Васіль Міллянавіч ЦЫРКУНОЎ. Заснаваны па ініцыятыве былога настаўніка Галоўчынскай СШ В.Д. Гузава і адкрыты 9 мая 1989 года. Размешчаны ў памяшканні Галоўчынскага Дома культуры. Асноўныя раздзелы музейнай экспазіцыі – «Гісторыя стварэння калгаса «Наша перамога», «Ніхто не забыты – нішто не забыта», «Нашы землякі – Героі Савецкага Саюза і Сацыялістычнай працы», «Нашы знакамітыя землякі», «Нашы маці», «Гісторыя Галоўчынскай СШ» і іншыя. У фондах музея зберагаецца каля 7 000 экспанатаў. Дзейнічае краязнаўчы гурток з ліку вучняў Галоўчынскай СШ. У верасні 2001 года ГА «Бялыніцкае краязнаўчае таварыства» пры падтрымцы музея, а таксама Галоўчынскай бібліятэкі правяло мемарыяльныя Гузаўскія чытанні.





# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

(Пачатак у № 16)

## Гантары

Адносна нядаўна лунінецкія дахі былі крытыя гонтай, саламай, радзей – неацынкавай фарбаванай бляхай альбо ацынкаванай. Напрыклад, усе хаты і гаспадарчыя пабудовы ў раёне царквы і ў канцы вуліцы Шырокапясковай (цяпер – Чырвонай) – у самым старым раёне горада – былі крытыя саломай, і толькі адзінкі – гонтай.

Па дахах можна было ў пэўнай ступені меркаваць пра заможнасць гаспадара. Гонтаўшчыкі, альбо гантары, на спецыяльных станках наразалі з асінавых, радзей яловых брускоў тонкія пласцінкі гонты з вузкім пазам у таўсцейшай частцы. Імі нярэдка крылі нават цагляныя дамы.

У Лунінцы на Аб'язной вуліцы (цяпер – Горкага) адзін яўрэй трымаў невялікую майстэрню па вытворчасці гонты. Канкурыравалі з ім большыя майстэрні ў Луніне і Лоўчы, якія забяспечвалі гонтай усе новабудоўлі. Лунінецкі вытворца не надта баяўся канкурэнцыі, бо трэба было ехаць у Лунін ці Лоўчу і адтуль везці матэрыялы.

У канцы 30-х гадоў у Лунінцы працавала камісія магістрата – архітэктары, дарожнікі, вадаправодчыкі і г. д. – па добраўпарадкаванні, рэканструкцыі і архітэктурным абліччы горада. Распрацоўваўся перспектыўны план рэканструкцыі і будаўніцтва горада на 20 гадоў наперад. На многіх дамах тады камісія паставіла чорнаю фарбаю трафарэтны надпіс «Прызначаны для зносу». Гэта былі старыя драўляныя дамы, якія заміналі пашырэнню вуліц, непрыдатныя для рамонту хібары. Тады камісія забараніла будаваць драўляныя дамы без бакавых (тарцовых) каменных сцен (напрыклад, такая сцяна з'явілася ў будынка былога суда), крыць хаты саломаю, не раілі скарыстоўваць гонту (якая добра гарыць), а скарыстоўваць модны тады толь (яго называлі «папа»), што цяпер называецца рубероідам. Скарыстоўвалася і бляха. Але не ўсім па кішэні былі тыя навінкі. А рэкамендацыі – не загад, таму лунінецкія дахі па-ранейшаму крылі гонтай.

Калі па вайне разгарнулася аднаўленне і будаўніцтва хатаў, гонце зноў знайшлі прымяненне.

Прафесія гантара мела як бы дзве галіны: адзін майстар – вытворца гонты на зямлі, другі – укладчык яе на даху. А ўкладка патрабавала пэўнай хвацкасці, ведаў і ўмення абыходзіцца з лёгкім і ломкім матэрыялам. Нездарма ў той час была такая прыказка – «Злазь з даху, не псуй гонты».

Крытая гонтай або жалезам хата надавала вагу і значнасць гаспадару ў грамадстве, таму на пачатку XX ст. хадзіў такі выраз – «уласны дом пад гонтай» або «ўласны дом пад цынкавым жалезам». Цяпер жа старадаўняе рамяство дашчэнту забытае.

*Леў КОЛАСАЎ*

---

*Успаміны салдата*

# ДАГАНЯЮЧЫ ВАЙНУ

## (Некалькі дзён з жыцця на перадавой)

(Заканчэнне. Пачатак у № 34)

### Абарона

У шпіталі пракачаўся роўна два месяцы і ў пачатку лістапада быў накіраваны ў 205-ы запасны полк. Адтуль паслалі ў 556-ы стралковы полк 169-й стралковай дывізіі 3-й Арміі.

На маю просьбу вярнуцца ў свой 609-ы полк, з'явіцца жывым, уваскрэслым, мне адказалі:

– Якая табе розніца, дзе загінуць?

Пасля цяжкіх баёў за плацдарм на рэчцы Нараў 556-ы полк быў адведзены ў польскі горад Замбраў на перафарміроўку. Разам з новым папаўненнем я і далучыўся да новага для мяне палка. Быў прызначаны ў 9-ю роту ручным кулямётчыкам.

Адразу пачаліся вучэнні, якімі кіраваў сам камандзір палка, маёр Пётр Васільевіч Качур. Айчынную вайну ён пачынаў старшым сяржантам, а пад Сталінградам прыняў полк у чыне капітана. Родам ён – з кубанскіх казакоў. Ужо быў пяць разоў паранены. За вусы, «кубанку», баявую адвагу салдаты празвалі яго «наш Чапай».

Адпрацоўвалі тактыку прарыва фронту. Вучэнні былі набліжанымі да баявой абстаноўкі. «Наш Чапай» любіў паўтараць: «Тяжело в учении, легко в бою» і не даваў паслаблення ні салдатам, ні камандзірам. Хоць гэта муштра вымотвала апошнія сілы, але ўсе патрабаванні камандзіра выконвалі з поўнай аддачай. Мы верылі свайму камандзіру, яго баявому вопыту.

5 снежня, на Дзень Канстытуцыі, прыняў прысягу, уступіў у камсамол. Праз некалькі дзён наш полк заступіў у абарону раней заваяванага плацдарма.

Усе з палёгкай уздыхнулі: «Адпачнём!» Сядзі сабе ў добраўмацаваных бліндажах, хадзі па глыбокіх траншэях.

На першы погляд, гэта так. Але ніхто не чакаў, што горш за ўсялякую муштру было заўсёднае недасыпанне. На дзяжурства выходзілі а чацвертай гадзіне вечара і да 9 гадзін раніцы не змыкаючы вачэй стаялі на варце. Гэта 17 гадзін бесперапыннага напружання фізічных і псіхічных сіл.

Днём пасля хатніх клопатаў – снедання, абеда, вячэры ды службовага абавязку, стараннай чысткі зброі – паспаць застаецца ад сілы 3–4 гадзіны. Такая штодзённая доза сну зморвала нас да атупення.

Каб духоўна ўзрушыць салдат і вывесці іх з санлівасці, камандзір роты з воклічам: «Смерць фашыстам!» выпускаў ракету і пачынаўся сеанс інтэнсіўнай агнявой абароны.

Салдаты ажываюць. У ход ідзе ўсё: і кулямёты, і аўтаматы, і гранаты, і асвятляльныя ракеты. Такія сеансы штораз паўтараліся ўсю ноч. Гэта дапамагло нам пазбегнуць страшэннай бяды: ніводзін наш салдат не быў схоплены нямецкімі разведчыкамі ў палон. А яны штоноч выходзілі на паляванне за «языком». Днём на дзяжурства заступалі снайперы.

Перад новым 1945 годам нас знялі з абароны і адправілі за 10 кіламетраў у тыл адпачыць перад прарывам фронту.

Размясціліся мы ў парадзелым сасновым бары. Па баках глыбокага і шырокага раўка прыляпіліся замаскіраваныя, нядрэнна дагледжаныя бліндажы. Яны былі прадаўгаватымі, разлічанымі на ўсю роту. Перад уваходам ў бліндаж стаяла прыкрытая хвоевымі лапкамі піраміда для зброі.

Першыя дні нам здавалася, што патрапілі ў самы рай. Вакол – цішыня, спакой і ў дадатак – «наркамаўскія» навагоднія 100 грамаў. Але гэта райскае жыццё нечакана абарвала трагічная падзея.

Аднойчы пад вечар, як і заўсёды, на схіле раўка пачалі чысціць зброю. Чуем: з завываннем праляцеў над намі снарад. Усе правялі яго галовамі і спакойна працягваем сваю працу. Чуем: ляціць яшчэ адзін снарад. Але цяпер – недалёт. Хтосьці крыкнуў:

– Хутчэй у бліндаж. Трэці будзе наш!

Усе шпарка паўскоквалі, паставілі зброю ў піраміду і кінуліся ў бліндаж. З кулямётам я правалаводзіўся і апошнім бягу ўверх да піраміды. І раптам амаль побач са мной разрываецца снарад. Абдало дымам, ударыла мёрзлай зямлёй. Складны шомпал выбіла з левай рукі. Я тады бягом у другі бок, у распалажэнне 8-й роты.

Абстрэл працягваўся з паўгадзіны. Страты панесла толькі наша рота. Двое байцоў, якія ставілі зброю, і двое, якія развярнуліся ісці ў бліндаж, былі да смерці пасечаны асколкамі. Мяне выратавала тое, што асколкі снарада рассейваюцца не ва ўсе бакі раўнамерна, як пры разрыве міны, а ляцяць наперад, у напрамку палёту. Калі б я паспеў зрабіць хоць паўкрока да піраміды, то патрапіў бы таксама ў паласу смертаносных асколкаў.

Назаўтра з'явіліся высокія чыны, абвінавацілі наша камандаванне за бяспечнасць і загадалі выкапаць глыбокія акопчыкі на 2-3 чалавекі ля кожнага бліндажа па штук 10 і каля іншых гаспадарчых аб'ектаў.

Скончылася наша вольнае жыццё. Заўзята дзяўбалі мёрзлую і камяністую зямлю амаль увесь адпачынак.

Загінулых пахавалі ў брацкай магіле. Ім было па 18 гадоў.

12 студзеня нам аб'явілі, што ідзём на перадавую. За дзень да адпраўкі да нас у роту завітаў парторг батальёна. Ён паведаміў, што саюзнікі цярпяць паражэнне і што нам давядзецца перайсці ў наступленне раней прызначанага тэрміну. Яшчэ дадаў, што пасля наступлення перасячом дзяржаўную мяжу. І як толькі ўвойдзем ва Усходнюю Прусію, можна будзе дадому адпраўляць пасылкі з рэчамі і прадуктамі.

Гэту прапанову мы ўспрынялі абыякава. Без лішніх эмоцый. Але адзін салдат дужа падрабязна стаў распытваць: «Як рабіць пасылкі? У скрынках ці загорнутыя ў палатно? Якімі ніткамі зашываць – белымі ці чорнымі? Якая вага пасылкі?» і г.д.

Я толькі падумаў: ці не зарана раскрыў раток на чужы багаток? Яшчэ трэба прарваць фронт, з баямі дайсці да гэтай Прусіі.

### Прарыў

Днём 13 студзеня атрымалі сухі паёк, поўны камплект зброі. Ноччу з 13 на 14 студзеня зрабілі марш-кідок на перадавую. І толькі там нам аб'явілі, што сёння пачынаецца прарыў фронта.

Траншэі, дзе мы размясціліся, былі глыбокія, але вузкія, і свабодна размінуцца нельга. Таму нас папярэдзілі, што могуць быць перагрупоўкі войск і, каб яны хутка занялі свае пазіцыі, мы павінны легчы ніцма. Салдаты па нашых спінах прабягуць на прызначанае месца. За раніцу давялося разоў з пяць падстаўляць спіну пад ёмкія салдацкія абцасы.

У вызначаны час пачалася артпадрыхтоўка.

Зімовае наступленне 14 студзеня 1945 года было маштабнай аперацыяй усяго 2-га Беларускага фронта. Такую артпадрыхтоўку я чуў і бачыў упершыню. Здавалася, расколецца і згарыць зямля. Білі ўсе калібры гарматаў і мінамётаў, грымелі залпы «кацюшаў». Ад разрываў навісла цёмная дымавая хмара. Кананада заціхла, і пяхота рушыла ў атаку.

На ўчастку нашага палка ў цэнтры ішоў другі батальён, першы і трэці былі на флангах. Мы – на правым. З лёгкасцю праскочылі першую лінію абароны.

Беглі амаль у цемнаце. Мала таго, што не рассейваўся дым ад разрываў, дык яшчэ развіхурылася завіруха. Снежныя крупы секлі па твары, засцілалі зрок. З-за такога надвор'я бяздзейнічыла авіяцыя. На подступах да другой лініі абароны мы адчулі супраціўленне немцаў. Відаць, яны трохі апамяталіся і сустрэлі нас, праўда, не зусім моцным і зладжаным агнём. Хоць і неслі страты, асабліва другі батальён, але ўсё ж захапілі і другую лінію абароны.

Без аніякай перадышкі ідзём далей – выбіваць немцаў з трэцяга, апошняга, рубяжа абароны. Перад намі была лагчынка, далей – узгорак. Мы толькі кінуліся па гэтай лагчынцы наперад, як патрапілі пад шквальны кулямётны і аўтаматны агонь. Давялося залегчы.

Зямля тут была амаль уся пакрыта камянямі, але не валунамі, за якія можна схавацца. Яны ляжалі нейкімі тонкімі плітамі. Па гэтых плітах мы па-пластунску дапаўзлі да неглыбокай траншэйкі і бачым: насупраць нас з-за ўзгорка сунецца танк. За ім ланцугом ідзе пяхота. Мы дружна і прыцэльна адкрылі агонь, кідаем гранаты. Пяхота залягла, танк прыпыніўся, водзіць дулам, як бы выбірае сабе ахвяру. Нарэшце стрэліў і патрапіў у таго самага салдата, які цікавіўся пасылкамі. Цела яго разляцелася на шматкі. Я імгненна ўспомніў словы маці: «Сынок, нідзе і ніколі не бяры чужога».

Мы ні на імгненне не спынялі агонь. Танк стрэліў яшчэ некалькі разоў і падаўся назад, а ўслед за ім і пяхота.

Толькі перавялі дух, як бачым: танк вяртаецца. І пяхота – таксама. Мы зноў сустрэлі ворага агнём, гранатамі. Танк спыніўся, пастаяў крыху. Болей не страляў і зноў пасунуўся назад. Як нам пасля сказалі, ён прыкрываў салдат, якія падбіралі сваіх параненых, а можа, і забітых.

Стала цямнець, сыпаў снег, каманд – ніякіх. Але мы былі ў баявой гатоўнасці, тым больш злева ад нас, у напрамку 8-й роты завязаўся бой.

Наш полк прыпыніўся на подступах да трэцяй лініі абароны, а неглыбокая траншэйка стала нашым домам на некалькі дзён. Для некаторых – стала домам вечным.

Ноч для нас выдалася трывожная. Камандзір роты капітан Базілеўскі праціснуўся па траншэйцы, падыйшоў да кожнага байца, падзякваў за вытрымку, што не паддаліся паніцы, адбілі контратаку. Пад'ехалі санітары, падабралі параненых і забітых. Пад раніцу прынеслі гарачую ежу. Напоўніўшы кацялкі, прымасціліся хто дзе есці. Раптам бачу: мой сусед пахіліўся набок, выпусціў з рук кацялок. Ён стаў ахвярай снайперскай кулі. Мы асцярожна паднялі салдата і паклалі на бруствер, як бы паглыбілі траншэйку, якую займала наша рота. За два дні мы яе значна паглыбілі.

Трэці дзень стаў для нас удвая светлым і радасным. Узышло сонца. Чуем: за некалькі кіламетраў ад нас бесперапынны гул артылерыйскай кананады, у небе віхрам праносяцца нашы штурмавікі. Пасля мы даведаліся, што нашы свежыя сілы прарвалі фронт і фарсіруюць наступленне. Таму нямецкія часці, якія ўтрымлівалі пазіцыі ў нашым напрамку, каб не патрапіць у акружэнне, адступілі без бою.

Пакінулі і мы сваю траншэйку. За пяць дзён хуткім маршам 22 студзеня мы нарэшце дасягнулі Усходняй Прусіі.

Прыйшлі да аднаго, відаць, багатага фальварка. Прыгожая забудова, вялікі парк. Гаспадар яшчэ не паспеў збегчы, бо дзве запрэжаныя параконкі стаялі ў двары. Салдаты адразу ўзабраліся на іх, захацелася ім пакатацца па Нямеччыне. Толькі выехалі з сядзібы, патрапілі пад абстрэл. Параконка развярнулася, а ўсе салдаты заляглі на ўскраіне сядзібы. Я апынуўся пры дарозе, паставіў на ножкі кулямёт, падрыхтаваўся да бою.

Гляджу: метраў за дзесяць ад мяне дарога робіць паварот і апускаецца ўніз. А збоку ад паваротки стаіць вялікі камень. Думаю, якая зручная пазіцыя для кулямёта – адкрываецца шырокі кругагляд. Падняўся і бягу да каменя. Толькі прылёг да яго, як абухам стукнула па спіне, каля левай лапаткі. Чую: левая рука бяссільна абвісла, пацякла кроў. Перадаў кулямёт другому нумару, а сам стаў адпаўзаць назад. Падбеглі два санітары, падхапілі пад рукі і павялі да санітарнай машыны. Калі праходзілі міма камандзіра роты, пачуў абрыўкі слоў... «Лепшы кулямётчык роты...» Цяплей стала. А санітары шэпчуць:

– Шчаслівы ты, салдат! Пакуль вылечышся, вайна закончыцца. Жывы дамоў вернешся. Шчаслівы ты, хлопец.



***На памяць аб вайне нашу ў целе 9 асколкаў. А водгукі яе не-не, ды й напомняць аб сабе. Прыкладам, 9 студзеня 1991 года Дзяржынская раённая газета «Сцяг Кастрычніка» змясціла спісы тых, хто не вярнуўся з вайны. У іх, якія прадставіў райваенкамат, быў і такі запіс: «Ермаловіч Валянцін Іванавіч, вёска Малыя Навасёлкі, Дзяржынскага сельсавета, радавы, загінуў у верасні 1944 года ў Польшчы».***

***А я вось жывы. Яшчэ і працую.***

***Валянцін ЕРМАЛОВІЧ, заслужаны работнік культуры Беларусі, інвалід Вялікай Айчыннай вайны II групы***

# Мініяцюры-былі

## Не цурайцеся мовы сваёй!

Ёсць возера Байкал. Вялікае, паўнаводнае, магутнае. Каля трохсот рэк нясуць у яго свае воды, і ведае гэтае возера ўвесь свет. І ёсць маленькае возера Карцэя на Беларусі. Сілкуюць яго толькі падземныя крыніцы. Зараслі яны балотнай тванню, зацягнуліся багнай. Ні гэтага возера, ні назвы яго не ведаюць не толькі ў свеце, але і ў сваім раёне.

Ёсць дзве мовы – руская і беларуская. Адну ведаюць на ўсёй зямлі, на ёй размаўляе 1/6 частка свету. І ёсць беларуская мова, якую за рэдкім выключэннем нават самі беларусы добра не ведаюць.

Але я веру: як жыве магутнае возера Байкал, так будзе жыць і маленькая Карцэя. І абавязкова праб'юцца некалі праз балота і твань крыніцы, ударацць празрыстымі струменямі да сонца, да свету. Я веру: мова наша будзе жыць, і беларусы будуць ведаць яе і шанаваць і, гаворачы на ёй, атрымаюць такую ж асалоду, як стомлены вандроўнік набіраецца сіл, прыпадаючы да крынічнага струменю празрыстай, гаючай вады.

## У людзей ёсць толькі ногі

Хлеб ляжаў у гразі... Чалавечыя ногі раз-пораз наступалі на яго і ішлі далей, не заўважаючы. У людзей не было твараў, былі толькі ногі, якія таптаць хлеб. Чалавечую працу, такую цяжкую і самаахвярную, таптаць самі людзі. Падысці, падняць... Сорамна. Сорамна падняць хлеб?! Ды што гэта я?! Падымаю. Луста ў гразі. Дастаўшы лісток паперы, загортваю хлеб. «Во, галодная!», – чую ад маладзенькай дзеўчынёхі. Пырснуўшы смехам, яна подбегам скіравалася далей, азірнулася, яшчэ раз засмяялася.

Не, дзяўчо, я, дзякуй Богу, не галодная. Я ўспомніла тату, яго расповеды пра Ленінградскую блакаду, дзе яму, каб не памерці з голаду, давялося абразаць халявы ботаў, варыць іх і, прыкідаючы варыва сасновымі пупышкамі, есці.

Трымаю хлеб, забыўшыся, ахопленая ўспамінамі. А той дзяўчыне няўжо ніхто не расказаў? У тую ж вайну на Беларусі загінуў кожны чацвёрты. У кожнай сям'і былі ахвяры. Але тых, хто перажыў, выстаяў і памятае апошнюю вайну, усё менш і менш. Іх дзеці і ўнукі яшчэ слухалі расповеды бацькоў, а праўнукі? Напэўна, не ведае дзяўчына ні пра блакадную пайку эрзац-хлеба, ні пра бліны з мёрзлай бульбы, ні пра хлеб з лебяды і гірсы. Не ведае пра Піскароўскія і іншыя могілкі, ні пра яўрэйскія гета, лагеры для палонных, дзе большасць памірала ад голаду, ні пра спаленыя вёскі разам з людзьмі. У лепшым выпадку ўспомніць Хатынь. На ўроках гісторыі расказваюць больш пра ўдалыя бітвы, а пра пакуты, якія знёс народ у імя той Вялікай Перамогі, часцей не ўспамінаюць. Навошта такія непрыемныя дробязі ведаць дзецям? Маё пакаленне наогул пераконвалі, што перамога прыйшла «дзякуючы звышмудраму кіраўніцтву КПСС». А маё пакаленне вучыла (і вучыць) раўеснікаў гэтай дзяўчыны. Пра Перамогу яны ведаюць, а вось пра кошт яе – не.

Наважылася пакласці загорнутую лусту ў сумку, але пачула голас: «Дай мне, дачушка». Узнімаю позірк – бабулька. Напэўна, я апярэдзіла яе. Кажа мне: «Хлеб брудны. Я яго сабачку аддам, суседзі-п'яніцы трымаюць, а не кормяць, ён зусім схуднеў ужо, да мяне прыбягае, у вочы так жаласна глядзіць. Дзяцей у іх забралі, а жывёліна гаруе». Аддаю бабулі хлеб. Мы развітваемся. Яна асцярожна ідзе, абапіраючыся на кіёк. Які хмуры дзень.., як пахмурна на душы.

*Сафія ТАБОЛА,*
*в. Заазерцы*
*Шаркоўшчынскага раёна*

# Мінск у біяграфіях

***Нядаўна ўбачыла свет падрыхтаваная Беларускім саюзам журналістаў (аўтар праекта – Л. Екель) са шматлікімі арыгінальнымі каляровымі здымкамі (фота В. Жыліна, Ю. Іванова, П. Кастрамы, А. Лабады), з густам выдадзеная вялікая (на паўтысячы старонак) кніга «Моя столица» (2004). У розны час розныя аўтары пісалі пра гісторыю горада, яго культуру, сучаснае аблічча. Можна, у прыватнасці, назваць кнігу нарысаў С. Грахоўскага, У. Карпава, Р. Сабаленкі і Т. Хадкевіча «Мы раскажам пра Мінск» (1964), манаграфію З. Шыбекі і С. Шыбека «Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада» (1990), арыгінальны фотаальбом І. Куркова «Мінск незнаёмы. 1920–1940» (2002). Гэты шэраг, безумоўна, пры жаданні можна працягнуць. Аднак кніга «Моя столица» – аповед пра ганаровых грамадзян Мінска, а праз іх – і пра сам горад, яго нядаўнюю гісторыю і сённяшні дзень. Пра адметныя падзеі і творцаў гэтых падзей.***




Сярод іх вядомыя палкаводцы, вучоныя, людзі мастацтва, рабочыя, прадстаўнікі іншых прафесій, якія ў розны час за асаблівыя дасягненні і заслугі атрымалі званне «Ганаровы грамадзянін горада Мінска». Ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў яго вызвалялі генерал-лейтэнант Аляксей Бурдзейны (у кнізе пададзены яго ўласныя ўспаміны), лейтэнант Мікалай Колычаў (аўтар нарыса – Р. Сакалоўскі), маршал бранятанкавых войск Алег Лосік (Ю. Іваноў), партызанская сувязная Марыя Осіпава (М. Тоўсцік). Аднаўлялі Мінск пасля вайны заслужаныя будаўнікі Іван Жыжаль (М. Тоўсцік), Дзяніс Булахаў (М. Тоўсцік), Аляксандр Громаў (А. Фомчанка) і Віктар Міцкевіч (М. Васькоў), сталявар Дзмітрый Барашкін (М. Шыманскі), генеральны канструктар аўтамабільнай тэхнікі Міхаіл Высоцкі (М. Шэлехаў), генеральны дырэктар МАЗа Міхаіл Лаўрыновіч (М. Шыманскі), славутыя ўрачы – нейрахірург Ігнацій Антонаў (Л. Екель) і афтальмолаг Таццяна Бірыч (Э. Каспяровіч), трохразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў па вольнай барацьбе Аляксандр Мядзведзь (В. Шырко). Ганаровае месца ў кнізе адведзена народным паэтам Беларусі – Петрусю Броўку (Р. Сакалоўскі) і Максіму Танку (В. Рагойша), мастакам – Міхаілу Савіцкаму (Р. Сакалоўскі) і Леаніду Шчамялёву (І. Гурыновіч), кампазітарам – Уладзіміру Алоўнікаву ( А. Сцепанцоў) і Ігару Лучанку (У. Ліпскі), артысту Расціславу Янкоўскаму (Т. Арлова). Вялікі аўтааповед прысвечаны Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі Філарэту, дзе пра яго выказваюцца вядомыя святары, мастакі, артысты і ў якім Уладыка дзеліцца сваімі ўспамінамі, развагамі пра боскае і зямное. Пачынаецца ж кніжны раздзел «Ганаровыя грамадзяне» матэрыяламі пра генерала Міхаіла Скобелева, якому званне ганаровага грамадзяніна Мінска было прысвоена яшчэ Мінскай гарадской Думай у 1881 годзе, і лаўрэата Нобелеўскай прэміі Жарэса Алфёрава, уганараванага гэтым званнем ужо ў наш час, у 2002 годзе.

Апісваючы лёсы ганаровых грамадзян Мінска, аўтары нарысаў (іх прозвішчы вышэй пададзены ў дужках), зразумела, робяць свой экскурс у гісторыю. А яна, гісторыя, эпоха, паклала свой адбітак на кожную біяграфію. Нельга забываць пра розныя перыяды ў жыцці ўсёй колішняй вялікай краіны – СССР і нашага горада як яе часцінкі. Было шмат радаснага, славутага, былі і знішчальная вайна, акупацыя, сталінскія рэпрэсіі, застой... Ёсць пра што згадаць, пашкадаваць і пагараваць. Але ва ўсе часы былі і ёсць тыя, хто ўсяляў і ўсяляе ў нас веру і дазваляе ганарыцца тым, што мы жывём менавіта тут, на гэтай цудоўнай зямлі, у нашым светлым і прасторным горадзе.

Праўда, падчас дае пра сябе знаць рознастылёвасць – пісалі ж кнігу паўтара дзесятка журналістаў (дарэчы, звесткі пра іх, а таксама пра ўсіх аўтараў, уключаючы мастакоў, фатографаў, рэдактара і нават карэктара, пададзены ў канцы выдання). І яшчэ. Пэўным чынам з кантэксту кнігі кампазіцыйна выбіваюцца заключныя матэрыялы, што склалі два невялікія раздзелы – «Асобы» і «На скрыжаванні вякоў: Мінск энцыклапедычны». У першым выпадку незразумела ўключэнне ў кнігу пра ганаровых грамадзян Мінска нарысаў пра не ўганараваных гэтым званнем. Ды і выбар гэтых асоб, відавочна, выпадковы.

Што да раздзела «Мінск энцыклапедычны», то неабавязкова́сць яго ўключэння ў кнігу бачыцца ў тым, што ў ім вельмі ўжо часта ўпамінаюцца зусім нязначныя факты сталічнага жыцця і, наадварот, нічога не гаворыцца пра асобныя этапныя, лёсаносныя моманты. Некаторыя звесткі выклікаюць сумненні ў іх дакладнасці. Ды і ўвогуле, пры наяўнасці грунтоўных энцыклапедычных звестак пра Мінск (у прыватнасці, у 18-томнай Беларускай энцыклапедыі) такі раздзел выглядае лішнім.

***Эла ДЗЮКАВА,***
***супрацоўніца філалагічнага факультэта БДУ***

# Тураўскі залатавуст – Баян-пясняр?

## *Меркаванне пра аўтарства «Слова» маскоўскага пісьменніка*

***Разумеючы, што артыкул Эдуарда Агуновіча, аўтарытэтнай асобы ў мастацкім свеце, але не гісторыка, не літаратуразнаўца можа выклікаць скептычную рэакцыю ў часткі чытачоў газеты «Голас Радзімы», мы пачалі пошукі дадатковых аргументаў або контраргументаў. І з дапамогай галоўнага бібліёграфа Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццяны Рошчынай выйшлі на даволі даўнюю і незаўважаную, не ацэненую ў Беларусі публікацыю Барыса Зотава «Хто ён – аўтар «Слова аб паходзе Ігаравым?», якая з'явілася ў аўтарытэтным часопісе «Вопросы истории»(1989, № 1). І што самае цікавае: думкі мінскага мастака і маскоўскага пісьменніка, хаця выказваліся яны абсалютна незалежна, у многім, а часамі літаральна супадаюць.***

Барыс Зотаў, таксама не спецыяліст у галіне старажытнай рускай літаратуры, нібы прадбачыў галасы навукоўцаў-традыцыяналістаў, якія могуць прагучаць і пасля публікацыі Э.Агуновіча. Ён папракае сваіх папярэднікаў за тое, што яны ўлічваюць «толькі адзін, адвольна выбраны фактар». Не бярэцца пад увагу ў комплексе галоўнае: «характар і ступень літаратурнай адоранасці, светапогляд, палітычныя погляды, сацыяльная належнасць, узровень у галіне адукацыі, тэрытарыяльная прыналежнасць, моўныя асаблівасці». Даследчыкам хочацца, каб аўтарам абавязкова быў удзельнік паходу 1185 года. Але тады як ён мог знаходзіцца адначасова ўсюды – «у палавецкім стэпе з Ігарам, у Кіеве са Святаславам і ў Пуціўлі на гарадской сцяне». «Усюдыбачным і ўсюдыісным мог быць толькі геніяльны паэт...»

Далей Б.Зотаў падкрэслівае, што аўтар «Слова» абавязкова мусіў ведаць «Іліяду» Гамера. Пра гэта сведчаць дзесяткі паралелей (яны прыведзены ў артыкуле). Значыць, стваральнік «Слова» – «геніяльны літаратар, які абапіраўся ў сваёй творчасці на традыцыі айчыннага народнага гераічнага эпасу, на песенную паэзію Баяна і адначасова на дасягненні старажытнагрэчаскай і візантыйскай культуры».

Нягледзячы на тое, што «Слова» мае «гераічна-хрысціянскі харакгар», тэкст яго, працягвае Б.Зотаў, «не дае падстаў гаварыць аб супрацьпастаўленні яго аўтарам язычніцтва хрысціянству». Боль аўтара – «гэта Русь, Руская зямля». Ён не прыхільнік «ніводнай княжацкай групоўкі, якія супернічаюць», усхваляе тых князёў, якія добра змагаюцца «са знешнім ворагам і мала заплямлены міжусобіцамі». Аўтар «несумненна належаў да інтэлектуальнай эліты», але гэта не «нейкі прыдворны княжацкі паэт-прафесіянал».

Ахарактарызаваўшы так погляды аўтара, Б.Зотаў робіць абагульненні, блізкія да думак Э.Агуновіча. Галоўнае з іх: гэта была асоба духоўнага звання. Індывідуальнасць аўтара акрэслена так: «Для яго характэрны творчая адоранасць самай высокай ступені, што прымушае думаць і пра іншыя літаратурна-грамадскія праявы; шырокае выкарыстанне пісьмовых літаратурных помнікаў старажытнагрэчаскай і візантыйскай культуры і ў той жа час апора на традыцыйную рускую песенную творчасць; хрысціянскі светапогляд; незалежнасць ад родавых княжацкіх сімпатый і антыпатый, развітае пачуццё адказнасці за лёс нацыі, вернасць агульнарускім інтарэсам і асуджэнне міжусобіц; бліскучае веданне гісторыі, палітыкі, культуры, фальклору, геаграфіі, укладу жыцця кіруючых княжацкіх вярхоў, што даказвае прыналежнасць да інтэлектуальнай эліты грамадства і блізкасць да тых, хто ўтрымлівае ўладу; сацыяльнае становішча вызначаецца, верагодней за ўсё, па-за баярска-княжацкім асяроддзем і па сукупнасці штрыхоў і рысаў, адзначаных вышэй, увогуле па-за свецкімі коламі; выкарыстанне слоўнікавага фонду не толькі паўднёварускага, але і іншых дыялектаў».

І вывады: «Калі «Слова» напісана чалавекам, які не пакінуў слядоў у гісторыі, то весці гаворку няма пра што. Сярод жа вядомых нам дзеячаў XII стагоддзя ўсім патрабаванням верагоднаснай мадэлі-партрэта адпавядае толькі адзін чалавек». Далей адкрываецца імя гэтага адзінага чалавека: «Кірыла, пра якога ідзе гаворка, нарадзіўся, жыў і тварыў у горадзе Тураве, на Прыпяці». Памёр ён «каля 1188 года», таму па часе мог быць аўтарам «Слова». Вельмі істотна, што, як піша Б.Зотаў, «... блізкасць «Слова» да тварэнняў Кірылы Тураўскага становіцца відавочнай. Дарэчы, гэта заўважана даўно. С.К.Шамбінага больш паўстагоддзя назад указваў на аналогію літаратурных прыёмаў Кірылы Тураўскага і аўтара «Слова» (...). На жаль, ідэі Шамбінагі не атрымалі далейшай распрацоўкі, іх ніхто не рызыкнуў падхапіць – наступалі часы, калі папулярызацыя нават прагрэсіўных царкоўных дзеячаў не заахвочвалася».

І хоць Эдуард Агуновіч не дадае дастаткова пераканаўчых новых аргументаў на карысць гэтай гіпотэзы, яна мае права на існаванне. Мы цалкам згодны з заключнымі словамі артыкула маскоўскага пісьменніка: «Вывучэнне жыцця і творчасці Кірылы Тураўскага як верагоднага аўтара «Слова» неабходна працягваць. Варта сур'ёзна падумаць пра камп'ютэрна-матэматычную апрацоўку яго твораў і ўвогуле пра ўжыванне ЭВМ для аналізу помнікаў старажытнарускай літаратуры».

Што ж, давайце на новым, віртуальным, узроўні дыскутаваць, абвяргаць ці пагаджацца, але не замоўчваць праблему. Геніяльнае «Слова» і геніяльны тураўскі златавуст гэтага вартыя!

***Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ,***
***загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі,***
***«Голас Радзімы»***



Фота Ігара ГРЭЧКІ

# Па жыцці з годнасцю прайсці

Не так даўно, у 2003 годзе, у Мінску, у выдавецтве «Тэхнапрынт» выйшла кніга выбраных твораў сатырыка і гумарыста Міколы Вяршыніна «Дакрытыкаваўся». Пра сябе ў невялічкай прадмове Мікалай Пятровіч напісаў, што нарадзіўся 20 мая 1940 года ў горадзе Чэрвені Мінскай вобласці. Бацькі яго загінулі ў пачатку вайны. Выхоўваўся ў цёткі, затым – у дзіцячым доме. Пасля заканчэння аўтамеханічнага тэхнікума, гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта працаваў да выхаду на пенсію на розных інжынерна-тэхнічных пасадах на прадпрыемствах Мінска. І ніколі не губляў цікавасці і прагі да жыцця.



Менавіта на гэта мы і хочам звярнуць вашу ўвагу, паважаныя чытачы «Краязнаўчай газеты». І спяшаемся далучыць вас да тых паэтычна-жартаўлівых (але ой якіх яшчэ сур'ёзных і глыбокіх у падтэксце!) назіранняў Міколы Вяршыніна, калі ён на ўласным вопыце ў розныя перыяды свайго жыцця пастараўся засведчыць сябе (разумейце, што і сваіх чытачоў) на такіх рубяжах біяграфіі, як трыццацігоддзе, саракагоддзе, пяцідзесяцігоддзе і, нарэшце, шасцідзесяцігоддзе. Вядома ж, не варта ўсё прамоўленае гэтым сатырыкам і гумарыстам кожнаму з нас прымяраць да ўласнага «я», але нечаму ўсё-такі і даверыцца, а урэшце, разняволіцца душой, бо тое кранае за жывое. Дык адрынем жа сваю ганарлівасць перад ісцінай з першых рук!

**Мікола Вяршынін**

## Пра суседак

*Да кожнае падзеі сведкі –*
*Заўжды дасціпныя суседкі.*
*Ім клопат ёсць да нашых*
*спраў:*
*І як хто лёг, і як хто ўстаў.*

*Хто што купіў, і хто што з'еў,*
*Хто з кім які інтэрас меў,*
*І хто злаваў, і сябраваў,*
*І хто каго пацалаваў...*

*Сядзяць на лаўцы гуртам*
*цёткі,*
*Збіраюць і разносяць плёткі,*
*Нібы работы ў іх няма:*
*Работа зробіцца сама...*

*Ім рупны клопат невядомы:*
*Ніводнай клумбы на двары,*
*Адна трава расце ля дому,*
*І тая сохне без пары.*

*Між іншым, больш было б*
*парадку,*
*Каб не мянташыць языком,*
*Узялі рыдлёўкі для зарадкі –*
*І самі б выйгралі, і дом.*

## Як жывецца ў шэсцьдзесят

*Не жартуе век наш з намі,*
*І падзей мінае шмат.*
*Не сачыў я за гадамі,*
*А гляджу – ужо шэсцьдзесят.*

*Захаваў свае абрысы,*
*Не схіляю галавы.*
*Не зусім яшчэ я лысы,*
*Не зусім яшчэ сівы.*

*Не сумую без прычыны,*
*Разганю сваю нуду,*
*Не абыдуць і жанчыны,*
*Сам я іх не абыду.*

*Не пайду ж ужо на танцы,*
*Што раней рабіў не раз.*
*Ну а нейкім падшыванцам*
*Пакажу і ў танцах клас.*

*Працаваць гатоў з ахвотай,*
*Бо магу яшчэ трываць.*
*А як выганяць з работы,*
*Буду лепш адпачываць.*

*І ніякага начальства,*
*І навошта мне прыгон!*
*Не скачуся да гультайства.*
*Колькі год шчэ, колькі дзён!*

*Захачу – на дачу еду,*
*Захачу – ў лес па грыбы.*
*І забудуся пра беды –*
*Працягнуць жыццё абы.*

*Лес нам – не дзеля пацехі:*
*Прыглядайся пакрысе.*
*Будуць ягады, арэхі –*
*Пазбіраю іх я ўсе.*

*І куплю, нарэшце, вуду,*
*Накапаю чарвякоў.*
*І штодзень я з юшкай буду –*
*Самы лепшы з рыбакоў.*

*Гарт з'явіўся паляўнічы:*
*Трэба мне купіць і ствол.*
*І дзічыну буду нішчыць,*
*Каб багатым быў мой стол...*

*Нехта іншы быў бы ў скрусе:*
*Мінаваў жыцця парад.*
*Толькі я ўсё ж не журуся:*
*Жыць не сумна ў шэсцьдзесят!*

# Індыя прапаноўвае каштоўныя камяні

Індыя зацікаўлена ў арганізацыі паставак каштоўных камянёў у Беларусь. Пра гэта паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Індыі Тара СІНГХ падчас рабочай паездкі ў Гомель.

Паводле слоў дыпламата, ювелірная вытворчасць у Індыі мае глыбокія гістарычныя карані, бо нетры гэтай краіны багатыя на залежы каштоўных камянёў. Тара Сінгх перакананы, што наладжванне дзелавых сувязяў у сферы паставак алмазнай сыравіны і каштоўных камянёў для ювелірнай прамысловасці магло б яшчэ больш узбагаціць двухбаковыя стасункі паміж Беларуссю і Індыяй. Таму падчас паездкі ў Гомель Т.Сінгх пажадаў азнаёміцца з ювелірнай вытворчасцю і працэсам апрацоўкі алмазаў на прадпрыемстве «Крышталь».

Як вядома, прадпрыемства «Крышталь» перыядычна зведвае цяжкасці з наяўнасцю алмазнай сыравіны. За 4 месяцы 2004 года яно выпусціла таварнай прадукцыі на суму 16,8 млрд рублёў, або ў паўтара раза больш, чым за аналагічны леташні перыяд. Гэта тлумачыцца тым, што ў красавіку 2003 года «Крышталь» не працаваў з-за адсутнасці сыравіны. Доля экспарту ў агульным аб'ёме рэалізаванай прадукцыі сёлета склала каля 90 працэнтаў, або 7,3 млн долараў ЗША ў грашовым выражэнні.

**Алена ПАСКАННАЯ**

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*



**БАГДАНОВІЧ Адам Ягоравіч** (20.03.1862, г.п. Халопенічы Крупскага раёна – 16.04.1940) – бацька Максіма Багдановіча, беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнавец. Скончыў у 1882 г. Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў у Ігуменскім павеце, з 1885-га – загадчык гарадскога вучылішча ў Мінску, дзе далучыўся да нарадавольцаў (арганізацыя тайна ўзнікла ў Расіі ў 1879-м у выніку расколу «Зямлі і волі», палітычную барацьбу звяла да тэрору, у 1881-м здзейсніла забойства Аляксандра II рукамі ўраджэнца Клічаўшчыны І. Грынявіцкага). З 1892 г. – служачы зямельнага банка ў Гродна. З 1896-га жыве ў Расіі, у Ніжнім Ноўгарадзе, з 1907-га – у Яраслаўлі. Запісваў беларускі фальклор, перадаў П. Шэйну для публікацыі некалькі дзесяткаў казак і паданняў, апісанняў народных звычаяў і абрадаў, песень, замоў, духоўных вершаў. Свае фальклорныя запісы таксама выкарыстаў ва ўласных працах «Пра паншчыну» (1894) і «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1894), дзе панавуковаму даследаваў іх, хоць, праўда, ацаніў не вельмі высока. Як пазней прызнаўся сам, сына Максіма, маленства якога прайшло ўдалечыні ад Беларусі і без роднага матчынага слова, адгаворваў ад заняткаў беларускай літаратурай, але даступныя яму сынавы рукапісы збярог і пазней, у 1923-м, перадаў іх у Мінск, у Інстытут беларускай культуры, для далейшага вырашэння іхняга лёсу, чым заслужыў ад беларускай літаратуры вялікую падзяку. Напісаў успаміны пра Максіма Горкага, з якім меў блізкія стасункі (абодва ажаніліся з дзяўчатамі, якія былі сёстрамі). Пэўна ж, з яго лёгкай рукі славуты тады рускі пісьменнік чытаў газету «Наша ніва», творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, цёпла падтрымаў іх і выказаў упэўненасць у далейшым пасляховым развіцці беларускай мовы і літаратуры, якія ішлі тады не дэкадэнцкімі пакручастымі сцяжынамі, а з глыбінь народнага жыцця. Многія рукапісы Адама Багдановіча (працы па мовазнаўстве, гісторыі рэвалюцыйнага руху), а таксама яго бібліятэка зберагаюцца ў Мінску, у бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Ва ўспамінах пра свайго сына адзначыў яго таленавітасць і славутасць, свой бацькоўскі боль па яго вельмі ранняй смерці. Максім, паміраючы ў маі 1917-га ў далёкай Ялце, куды літаральна сілком адправілі яго лячыцца ад страшнай хваробы мінскія свядомыя беларусы, перад смерцю мысленна гаварыў з бацькам, прысвяціў яму сардэчныя сыноўнія радкі.

А.Я. Багдановіч пахаваны ў Яраслаўлі.

**БАГДАНОВІЧ Максім Адамавіч** (27.11.1891, Мінск – 12 (25). 1917) – сын Адама Ягоравіча Багдановіча, паэт, перакладчык, крытык і гісторык – адна з загадак беларускай і сусветнай літаратуры і культуры.

На Беларусі жыў вельмі мала, усяго каля 5 гадоў, разам з бацькамі (і з мачахай) па 1916 год жыў па-за яе межамі, дзе набываў адукацыю на рускай мове і дзе яго рыхтавалі на юрыста (у 1916-м скончыў у Яраслаўлі Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй і ўвосень гэтага года падаўся ў прыфрантавы Мінск, дзе ажывілася свядомая беларуская інтэлігенцыя (Зоська Верас, Змітрок Бядуля і інш.), памагаючы пацярпелым ад вайны і працягваючы рабіць беларускую справу.


*Адзіны прыжыццёвы партрэт*

У Мінск Максім прыехаў ужо вядомым (пачатак першай публікацыі ў 1907 г. у «Нашай ніве»), меў ужо нямала апублікаваных вершаў, перакладаў, рэцэнзій і артыкулаў на розныя тэмы, меў першую кнігу паэзіі «Вянок» (1913). Прыехаў з веданнем беларускіх фальклору, гісторыі, абагачэннем беларускай паэзіі лепшымі сусветнымі ўзорамі (пераклады Гарацыя, Авідзія, Шылера, Гейнэ, Пушкіна, Верлена, а таксама пераклады лепшых узораў паэзіі з персідскай, украінскай, сербскай, іспанскай, скандынаўскай, японскай літаратур) і заадно прыехаў заглыбляцца... менавіта ў беларускія гісторыю, духоўны свет, роднае слова, каб беларуса разам з іншымі падняць да ведаў, мыслення, усведамлення сябе Чалавекам, Народам, Нацыяй, які ў свой час (з часоў Полацкага княства, як падкрэсліваў ён горача) меў сваю дзяржаўнасць і які павінен, абавязаны вярнуць сабе высокую годнасць па прыкладзе іншых акрыялых народаў.

Вялікая загадка Максіма Багдановіча ўжо ў тым, як ён удалечыні ад Бацькаўшчыны здолеў стаць такой вялікай Асобаю, так глыбока і хораша выяўляць свае, народныя думы і пачуцці, развіць беларускую паэзію ў такіх складаных формах, як тэрцыны, трыялет, актава, рандо, санет, скерца, бліскуча выяўляючы, што ўсе паэтычныя складанасці і яшчэ як след не апрацаванай літаратурна беларускай мове падуладныя ўжо! Ён спакойна і мірна нанёс магутны ўдар па шавіністах рознай масці, якія беларускую мову не пускалі на высокакультурны, сусветны пасад, адводзілі ёй месца толькі «пад мужыцкімі стрэхамі». Каб ён быў аўтар толькі «Слуцкіх ткачых», «Пагоні», «Зоркі Венеры», «Паміж пяскоў егіпецкай зямлі», дык мы ўжо і тады мелі б права, былі абавязаны сказаць: гэта – геній, з кагорты маладых геніяў рускага Лермантава, венгра Пёцефі і іншых, якія пражылі на свеце толькі крыху больш за 25 гадоў, але ярка азорылі родную мову і літаратуру.

Максім Багдановіч ішоў насустрач сваёй ранняй смерці з вераю: «Досі ўжо, браты, чужынцам мы служылі», «Ты не згаснеш, ясная заранычка», «Беларусь, твой народ дачакаецца» запаветнага, а тым, хто спасылаўся на цяжкасці, на сваё бяссілле, спакойна, але мужна гаварыў: усё гэта так, але трэба праяўляць вытрымку і мужнасць: супраць цячэння можа толькі жывое паплыць!..

На вершы М. Багдановіча напісаны песні, опера, яго іменем названы вуліцы ў Гродне, Мінску, Гомелі, у сталіцы ёсць музей і помнік яму. Музеі М. Багдановіча дзейнічаюць ў Яраслаўлі і Ялце, у в. Вязе Асіповіцкага раёна (на грамадскіх пачатках). Ёсць і ўсё больш развіваецца такая галіна беларускай літаратурнай навукі, як багдановічазнаўства. Помнік яму ёсць і ў далёкім Місхоры. Ягоная магіла, як і раней яго жыццё – па-за любімай Радзімай. У Ялце.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 16. 09. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1471.
Тыраж 1100.